
Новае пра Анісэровіча→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Кнышын менш вядомы→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 29 (3192) Год LXII Беласток, 16 ліпеня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Архіепіскап СІМАН — адданы Богу, людзям і беларускасці





■ Справа: Архіепіскапы Ерамія, Сіман, мітрапаліт Васілій, архіепіскап Сава, НН., НН. (фота з архіва Нівы)

**28 чэрвеня пасля цяжкай хваробы на 81 годзе жыцця памёр праваслаўны архіепіскап Лодзенскі і Познаньскі Сіман (Раманчук) [калі раней я размаўляў з Уладыкам, папрасіў Ён мяне карыстацца менавіта званнем «архіепіскап Лодзенскі і Познаньскі»]. Смерць Архіпастыра выклікала ў мяне рэфлексіі наконт маіх сустрэч з Уладыкам Сіманам.**

Архіепіскапа Лодзенскага і Познаньскага Сімана першы раз я ўбачыў на зломе сямідзясятых і васьмідзясятых гадоў, калі Ён наведаў мой родны Узнясенскі прыход у Новаберазове. Тады быў Ён епіскапам Люблінскім і заадно вікарным епіскапам Варшаўска-Бельскай епархіі. Настаяцель Новаберазоўскага прыхода айцец Сяргей Стальбоўскі папрасіў мяне звярнуцца з прывітальным словам да Уладыкі Сімана. Вітаючы епіскапа ад імя моладзі, я моцна хваляваўся. Аднак пасля былі рады сустрэчы з Уладыкам і магчымасці атрымаць ад Яго непасрэднае благаславенства. Епіскап Сіман узначальваў тады багаслужбу ў царкве Іаана Багаслова і зрабіў на прыхаджанах станоўчае ўражанне. Пазней пра архіепіскапа Сімана гаварылася многа добрага, перш за ўсё як пра добрага архіпастыра, які моцна дбаў пра сваю Лодзенска-Познаньскую епархію, сваіх вернікаў і як пра епіскапа, якому важнымі былі родная беларуская мова і культура. У 2006 годзе падчас святкавання ў гонар Супрасльскай іконы Божай Маці ў Мужчынскім манастыры ў Супраслі з зацікаўленнем выслухаў я пропаведзь архіепіскапа Сімана, які пачаў гаварыць яе на расійскай мове, але хутка перайшоў на беларускую літаратурную мову, якою дасканала валодаў. Звяртаючы ўвагу на Божую Маці, Уладыка заклікаў шанаваць сваіх мам і заявіў, што жывучы ў Лодзі, сумуе па роднай зямлі.

Калі архіепіскап Сіман меў прыехаць на Беласточчыну восенню 2013 года, па тэлефоне дамовіўся я з Уладыкам на інтэрв'ю для нашага тыднёвіка. Мелі мы спаткацца ў Яго роднай Гушчэвіне каля Нараўкі, дзе ўсярэдзіне Белавежскай пушчы знаходзіўся дом архіепіскапа Сімана, у якім ён любіў адпачываць. Аднак з-за многіх абавязкаў, якія чакалі тады Уладыку ў Бельску-Падляшскім, спаткаліся мы ў парафіяльным доме Міхайлаўскага прыхода ў Бельску. Архіепіскап даў мне тады доўгае інтэрв'ю, змешчанае пазней у «Ніве». Быў таксама час на свабодную размову, калі Уладыка Сіман успамінаў пра здарэнні з дзяцінства і са сваёй вучобы на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску. Намнога пазней мне, студэнту беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, прыйшлося на гэтым самым філфаку ў Мінску вучыцца паўгода ў рамках стажыроўкі. Мы ўспаміналі тыя самыя месцы, у якіх уладыка Сіман пабываў намнога раней. Сустрэча ў Бельску, падчас якой Архіепіскап прыняў мяне вельмі цёпла, засталася ў маёй памяці яшчэ глыбей, чым маё спатканне з уладыкам Сіманам перад царквой Іаана Багаслова ў Новаберазове трыццаць гадоў раней. На некалькі месяцаў перад маёй размовай з архіепіскапам Сіманам, летам 2013 года пабываў ён у Мінску, таксама ў тых месцах, дзе Ён вучыўся і жыў, будучы студэнтам беларуска-расійскай філалогіі. Гаварыў Уладыка, што чалавек бывае маладым толькі адзін раз і таму слязінка закруцілася Яму ў ваччу, калі хадзіў Ён па Мінску і па тых месцах, дзе паўвека раней хадзіў на заняткі на філфаку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

— Мяне нават упусцілі ў той пакой у інтэрнаце ў Мінску, дзе я жыў, будучы студэнтам, а з акна маёй гасцініцы былі бачны дахі філфака, дзе я вучыўся, і маёй бібліятэкі, у якой я займаўся. Я ўспамінамі вярнуўся ў гады маёй студэнцкай маладосці, ад якой засталіся добрыя і мілыя ўспаміны. У Мінску я правёў самыя шчаслівыя гады майго жыцця, а тады вучыліся там студэнты з розных краін, розных нацыянальнасцей і з рознымі колерамі скуры. І не было паміж намі ніякай варожасці, — прыгадваю словы архіепіскапа Сімана, запісаныя на дыктафон. — У Мінск трапіў я пасля вялікага адбору. Я быў адным з найлепшых выпускнікоў Педагагічнага ліцэя ў Бельску, паспяхова справіўся з ваяводскім экзаменам і мяне накіравалі здаваць экзамены на вучобу за мяжой. Я паспяхова справіўся з імі і з найлепшым вынікам з Беластоцкага ваяводства трапіў у лік 180 маладых асоб, якіх выслалі на вучобу ў замежныя вышэйшыя ўстановы. Я і трое дзяўчат, усе праваслаўныя, трапілі ў Мінск. Думаю, што гэта не было выпадковым і мяне туды выслалі з улікам, што, вярнуўшыся ў Польшчу, выкарыстаю тут маё веданне беларускай і рускай моў. Быў гэта цудоўны час, калі можна было непасрэдна вучыцца беларускай літаратуры ад яе самых вялікіх стваральнікаў.

Уладыка Сіман успамінаў, як, будучы студэнтам, хадзіў у Мінску ў тэатры, оперу. Жыў тады ў адным пакоі з Нілам Гілевічам, вучыўся ва ўніверсітэце ў тым самым часе, што Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін, меў магчымасць спаткацца падчас лекцый і сустрэч з Міхасём Лыньковым, Кандратам Крапівой, Якубам Коласам, Іванам Навуменкам, вядомы былі яму таксама Іван Мележ і Алег Лойка. Здабыўшы вышэйшую адукацыю ў Мінску, Сіман Раманчук пачаў працаваць у Агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове настаўнікам беларускай, расійскай і лацінскай моў.

— Яшчэ перад працай у Міхалове Георгій Валкавыцкі запрапанаваў мне работу журналістам у «Ніве», якая толькі станавілася на ногі. Прапанавалі мне таксама працаваць журналістам на радыё. Аднак мяне цягнула да педагагічнай працы. Спачатку беластоцкі куратар, родам з Нараўкі, запрапанаваў мне папрацаваць паўгода ў ліцэі ў Міхалове, дзе не стала настаўніка латыні. Аднак я так палюбіў вучняў класа, якога стаў выхавацелем, што рашыўся давесці іх да канца вучобы ў ліцэі, а пасля накіраваў хлопцаў і дзяўчат на розныя спецыяльнасці вышэйшых навучальных устаноў. Калі я перайшоў працаваць настаўнікам у Праваслаўную духоўную семінарыю, таксама стаў там вучыць, між іншым, беларускай і рускай мовам, якія лічыў сваімі мовамі, — успамінаў чатыры гады таму ўладыка Сіман.

Архіепіскап Сіман быў пастаянным чытачом «Нівы» і мог аднесціся да спраў, якія разгляdaліся на старонках нашага тыднёвіка. Творы ўладыкі Сімана на беларускай мове друкаваліся ў «Ніве».

— Я вельмі любіў чытаць. Будучы маладым хлопцам, чытаў я дома нават пры запаленай лучыне, а пасля ўжо пры газавай лямпе. Вельмі многа чытаў падчас вучобы ў Мінску, а пасля пачаў таксама пісаць. Я думаю, што і сёння я яшчэ «белавежац», я ж лічу сябе беларусам. Георгій Валкавыцкі заахвочваў мяне пісаць па-беларуску і я стаў пісаць. Мае апавяданні на беларускай мове друкаваліся ў шасцідзясятых і сямідзясятых гадах. У канцы сямідзясятых гадоў перасталі іх друкаваць, калі я стаў пісаць на багаслоўскія тэмы. Але я не перастаў пісаць па-беларуску і складваю свае апавяданні. Зараз у мяне ёсць больш за пятнаццаць апавяданняў напісаных па-беларуску і нават Яўген Вапа прасіў дасылаць іх у «Ніву» для друку, але я не прыбраўся гэта зрабіць. Ёсць у мяне таксама апавяданні на іншых мовах і можа неяк збяруся, каб іх выдаць. Калі чалавек памрэ, забірае ўсе ўспаміны з сабой і ў мяне ёсць яшчэ надзея, што спішу свае ўспаміны, — гаварыў мне ўладыка Сіман у 2013 годзе (пасля гэтай размовы архіепіскап друкаваў свае творы ў нашым тыднёвіку).

Падчас гутаркі я спытаў яшчэ ўладыку Сімана, якой беларускай літаратурай можна пакарыстацца, шукаючы дарогу да Хрыста.

— Многа беларускай літаратуры паказвае гэтую дарогу, бо дарога да Бога, гэта дарога да чалавека. Можна гэта знайсці ў творчасці Багдановіча, Цёткі, Купалы, Коласа, а як прыклад можна прывесці радкі беларускага шэдэўра «Мой родны кут, як ты мне мілы...», — сказаў Уладыка.

Архіепіскап Сіман памёр пасля цяжкай хваробы. Застанецца Ён у нашай памяці як адданы Богу і людзям архіпастыр, а ў беларускім асяроддзі будзем успамінаць Архіепіскапа таксама як беларускага пісьменніка, адданага беларускай культуры чалавека, настаўніка беларускай і іншых моў.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Не хлебам адзіным

„Дармаедам” вырашана вярнуць грошы. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміла сама намесніца міністра па падатках і зборах. Яна патлумачыла, што адбылася нарада з удзелам кіраўніка краіны, дзе абмяркоўваўся той шматпакутны дэкрэт № 3, які нарабіў столькі шухеру ў сталіцы і іншых гарадах Сінявокай. І вось там і было дадзена канкрэтнае ўказанне пачаць вяртанне сродкаў нецярплівым грамадзянам, якія паспелі заплаціць гэты збор своечасова, прызнаючы тым самым той факт, што ў Беларусі можна мець банкноты нацыянальнага банку нават нідзе не працуючы.

Чаму ніхто на дзяржаўным роўні не распытаў іх як гэта робіцца і не раскрыў гэтую таямніцу для ўсяго насельніцтва застаецца загадкай. Можа тады б усе беларусы перанялі б гэты каштоўнейшы досвед і, перапоўненыя ўдзячнасцю за раскрыццё карысная таямніцы, спраўна плацілі б грошы ў дзяржаўную скарбонку, а не выходзілі б на несанкцыянаваныя акцыі з патрабаваннямі адмяніць дэкрэт. А то і больш далі б, чым дэкрэт патрабуе. Беларусы людзі не скупыя. Ну чаго ім было б шкадаваць грошы таму, хто адкрыў сакрэт дзе іх браць, нідзе не працуючы, бо калі маеш, то не шкада і падзяліцца. Горш калі дзяліцца няма чым, а ў цябе гэта патрабуюць, злёгку ківаючы пальцам, які ў кожную хвіліну можа ператварыцца ў міліцэйскую дубінку.

Цяпер жа кроўна нажытыя будуць вернуты тым „дармаедам”, у якіх грошы акурат былі на тое, каб аддаць іх дзяржаве. Вось ім грошы вернуцца. А вось тым, хто тых грошай не меў і выйшаў з тае прычыны на вулічныя акцыі, шукаць справядлівасці такой палёгкі дзяржава не дае. Яны мусяць заплаціць за свае патрабаванні на несанкцыянаваных акцыях вялікія штрафы, якія з запасам перакрываюць той збор за дармаедства. У іх то і на збор не было, таму і выйшлі. Але дзе яны возьмуць на штраф гэта ўладу не цікавіць. І судовыя выканаўцы ўжо пачалі выконваць свой службовы абавязак па зборы тых штрафаў.

Накont штрафаў у Беларусі тэма асобная. Яна добра прадуманая і адладжаная да дасканаласці. Вось зусім нядаўна інтэрнэт скалыхнула чарговая навіна пра парушальнікаў дзяржаўнай мяжы. Усе адразу падумалі, што затрымалі кантрабандыстаў, бо на думку развіжлівага беларуса кантрабанда гэта адзіная патрэба парушаць межы. Ва ўсіх іншых выпадках лепш ехаць праз афіцыйныя прапускныя пераходы. Тэма кантрабанды ўвогуле ў беларусаў выклікае павышаную зацікаўленасць. Але зараз не пра кантрабандыстаў, а пра штрафы. Кантрабандысты яны ці не, але — як паведамляла прэса — васьмёх парушальнікаў дзяржаўнай мяжы, якіх лавілі нават з прымяненнем зброі, абвінавацілі ў некалькіх парушэннях адразу і ім пагражае штраф ажно да ста базавых велічынь. Шалёныя грошы. Але для параўнання хачу давесці, што за падрыхтоўку несанкцыянаванай акцыі, такой як выхад на вуліцу з патрабаваннем адмяніць дэкрэт № 3, можна пацярпець і мацней. І не толькі заплаціць шалёны штраф, але і пад адміністрацыйны арышт патрапіць. Хоць абсурднасць таго дэкрэта дэ-факта ўжо прызнала і сама ўлада, пачаўшы аддаваць збор тым, хто яго паспяшаўся заплаціць.

Вось і думае беларус, што больш бяспечна ў яго роднеькай краіне. Ці варыянт першы: выходзіць на вуліцу ды патрабаваць праўды і справядлівасці, патрабаваць выканання канстытуцыйных і прававых нормаў ды сваіх жа законаў. Ці варыянт другі: цішком парушаць гэтыя законы, напрыклад, пераскокваючы дзяржаўную мяжу з мяшком кантрабанднага тавару, ці неафіцыйна працаваць пазбягаючы падаткаў. Другі варыянт можа і не чэсны, але адназначна больш бяспечны і прыбытковы.

Але ўсё больш беларусаў выбіраюць варыянт першы. Як доказ прывяду такі факт, што за парушэнне мяжы ў год ловяць можа дзясяткі людзей, а можа нават у які год і сотні. А вось толькі за акцыі супраць таго славутага дармаедства пахапалі больш чым тысячу.

Цягнуцца людзі да праўды. Беларус усё ж такі больш хоча жыць не хлебам адзіным. А там, глядзіш, са штрафамі можа атрымацца як з тым зборам за дармаедства. Выйдзе аднаго дня нейкі чарговы намеснік міністра і абвесціць, што на нарадзе з удзелам кіраўніка краіны было прынята рашэнне вярнуць усім назад тыя штрафы...

❖Віктар САЗОНАЎ

# Скандаліст! Падбухторшчык!



Сёння, перш чым пачаць пісаць гэты тэкст, я прачнуўся ад кашмару. Яго дрэнныя вобразы, як звычайна, неўзабаве зніклі са свядомасці. Я запамятаў з яго толькі невядомае мне слова: *Instigator*! Падбухторшчык! Падпальшчык! Адкуль яно ўзялося ў маёй памяці? Магчыма, я кранууўся да яго вачыма ў нейкай кнізе, мабыць, у інтэрнэце. У цяперашні час, аднак, я не мог высначыць нават на волас бліжэй яго значэння. Важна адзначыць, што з'явілася гэтае слова ў сказе: «Ужо час, пан інстыгатар». Яшчэ напаўпрытомны ад сну я ўключыў камп'ютар і ўвайшоў у інтэрнэт. Пакуль адкрыў інтэрнэт-энцыклапедыю Вікіпедыя, інстынктыўна паглядзеў на Google News. А там інфармацыя пра чарговы скандал педафілаў у Ватыкане. Пра какаінавыя оргіі касцельнай іерархіі і, каб больш сімвалічна, якія адбываліся, прытым не раз, у памяшканнях былой інквізіцыі. Цікава, што на гэта польскія іерархі, якія так люта адстойваюць добрае імя праслаўтага біскупа Пэца і нават больш зняслаўленага апальнага епіскапа Вэсалоўскага? Не кажучы ўжо пра выпадкі (занадта шматлікія) звычайных святароў-педафілаў, заблытаных у педафільскія злачынствы? Таго Каталіцкага касцёла, які хоча ажыццяўляць кіраванне душамі ўсіх грамадзян Рэчы Паспалітай? Ці што скажуць прышпіленыя да яго палітыкі?

Інтэрнэт інтэрнэтам, але я схільны давяраць больш матэрыяльным Энцыклапедыям і Слоўнікам. Таму што сягнуў я найперш у *Слоўнік* Капалінскага. Паводле яго слоў, гэты інстыгатар-завадатай, таксама падбухторшчык, юда — гэта гістарычна пракурор, каралеўскі пракурор. З лацінскай, гэта *poduszczyciel*, завадатар, з *instigare* — узбуджаць, падбухторваць. У любым выпадку, слова падбухторшчык абрасло ў двухсэнсоўнасці, як пыційскае, поўнае хітрых і інсінуацыйных недаказаных перыфраз прароцтва надыхаўшайся зёлкамі жрыцы. Значыць, інстыгатар гэта пракурор, ці завадатай?

Далей дашукваюся схаваных сэнсаў свайго сну. Нарэшце, я адкрыў інтэрнэт-сайт *Старапольскага слоўніка*, фірмаванага Вікіпедыяй. Прыцытую шырэй: «Інстыгатар — установа з Рэчы Паспалітай, якая адпавядае цяперашняму пракурору. Скшатускі ў «Prawie polskiem» піша: «Тое, што ў іншых краінах пракуроры каралеўскія, тое ў Польшчы інстыгатары значаць. Яны даходзяць крыўдаў учыненых Рэчы Паспалітай». Інстыгатар быў публічным пракурорам, які дзейнічаў ад імя закона. Першую вестку аб інстыгатарах маем у нас з часоў Жыгімонта Аўгуста. Пазней Канстытуцыя 1581 г. патрабуе ад інстыгатара, каб выступаў як ісцец, пракурор, ва ўсіх справах, у якіх ніхто не дабіваецца справядлівасці. У асноўным ён выносіў позвы ў дзяржаўнай здрадзе і абразе каралеўскай велічы (...). Інстыгатары прысягалі добрасумленна выконваць правы караля і Рэчы Паспалітай, незалежна ад таго, якая магла чакаць нянавісць ці пераслед, датычная ці багатага, ці беднага, земляка ці замежніка».

Стараюся важыць словы. Не заўсёды, прызнаюся, гэта ўдаецца. Словы маюць асаблівую сілу, ведаю. Добрыя акумулююцца дабром, дрэнныя злом. Усе вядуць за сабой далёка ідучыя наступствы. Выказаныя, не ляцяць з ветрам. Пачутыя, не ператвараюцца ў пыл. Трываюць, нягледзячы на праходжанне часу. Укаранёныя ў кары галаўнога мозгу, там пускаюць парасткі, але з іх можа атрымацца добры або дрэнны плён. Паказваюць, што словы і дзеянні цесна звязаны паміж сабой. Часам словы папярэднічаюць дзеянням, а дзеянні фармуюць словы. Я глыбока перакананы ў гэтым. Гэта пацвярджаецца маім асабістым вопытам, і думаю, што не толькі маім.

❖Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Мяжа дроту, плота і Еўрасаюза

Штосьці не так з прыродай і натурай у падляшскай прасторы. Тое, што людзі падурэлі, вядома здаўна. Прыклад хіба ідзе зверху. Мабыць, нейкія беспарадкі завяліся і на нябёсах, бо ў зямным варыянце таксама справы не найлепш маюцца, напрыклад, з надвор'ем, грыбамі, жывёлай, дрэвамі, ну і людзьмі, не гаварыўшы пра малую і вялікую палітыку. Адным словам — каніцель, выхаду з якой чакаецца ў кожным куточку чалавечага існавання. Бо ж раней гаварылася, што наш рэгіён без аніякай мілітарнай прамысловасці ці хацяа малой крэмніевай даліны не будзе мець аніякага значэння ў агульнапольскіх ці еўрапейскіх разборках і мае выконваць толькі функцыю адпачынковай зоны для стомленых працай і жыццём еўрапейцаў, якія зоймуць прастору па мясцовых аўтахтонах, што адплывуць у цішыні ў краіну вечнага сну. А тут, дзякуючы жуку караеду ў Белавежскай пушчы і афрыканскай чуме свіней атрымалася такая неразбяryха, што Падляшша гэта не толькі лозунгавыя «зялёныя лёгкія» Польшчы, але рэальная скула на сраццы для варагуючых лагераў улады і апазіцыі. Гэтыя лагеры дзеля сваёй перамогі інструментальна скарыстоўваюць не толькі медыі і мясцовае насельніцтва. На дапамогу клічуць яны ўсе міжнародныя ўстановы, не толькі еўрапейскага маштабу. Адным словам ваўкі скочылі да глотак, каб сабе іх перагрызці. І аказваецца, што маленькі караед у змозе валіць не толькі пушчанскія елкі, але і напусціць насупраць сябе дзясяткі тысяч людзей. Раней усе спасылаліся на волю Божую, але ў сённяшнім свецкім свеце для яе таксама штораз менш месца. Узнікае тады сумнае пытанне: дык у каго больш розуму і нармальнага думання? Хіба ў караеда, які здолеў усё племя чалавечае асмяшыць у ягонай пыхлівасці і самалюбстве, якое не ў змозе дамовіцца паміж сабою.

І калі зараз усе закружыліся ў пушчанскім караедным танцы, то неяк прызабыліся пра таксама неад'емнага жыхара гэтай прасторы, якому пагражае ў той момант рэальнае знікненне. Значыць, дзіку — пабраціму нашай дамашняй свінні. Прапануецца цалкам яго выстраляць тут, на памежжы. А ўсё дзякуючы афрыканскай чуме свіней — хваробе, якая, пераносшаная дзікамі, здольная вокамгненна знішчыць свінагадоўлю ў любой краіне. Барацьба з гэтай эпідэміяй доўгая, каштоўная і поўная сварак паміж рознымі групамі грамадства. Але з'ява тут вельмі характэрная: хваробы чалавечыя пераносяцца перш за ўсё паміж людзьмі, птушыны грып у сваім каралеўстве, АЧС кладзе покатам свінскі род. Можам толькі са страхам думаць, калі імунітэтны сістэмы паасобных арганізмаў страцяць цалкам неўспрымальнасць на хваробы іншых жывёльных светаў. На дальягладзе ізноў паморы без войнаў і прасторы без людзей, а прыродны парадак без уплыву рукі чалавечай.

З моманту раскрыцця ў 2014 г. на Падляшшы месцаў (першых у Польшчы) заражаных і здохлых ад АЧС дзікоў, змаганне з эпідэміяй каштавала бюджэт дзяржавы звыш пяцідзесяці мільёнаў злотых. Найбольш месцаў заразы знаходзіцца на мяжы з Беларуссю і Украінай, значыць у Падляшскім і Люблінскім ваяводствах. І тут самыя вялікія патраты для сялян і павышаныя рэстрыкцыі з боку ветэрынарнага нагляду. Але, нягледзячы на такія меры бяспекі на адной цалкам закрытай буйной ферме на звыш тысячу штук у гміне Гонёндз на Падляшшы ў апошніх тыднях выяўлена месца гэтай хваробы. У сувязі з такой сітуацыяй Эканамічны камітэт Рады Міністраў Польшчы рэкамендаваў ураду ўзвесці плот на мяжы з Беларуссю і Украінай даўжынёй у 729 км. Ён павінен, паводле ветэрынараў, спыніць міграцыю дзікоў праз дзяржаўную мяжу. Кошт будаўніцтва ацэньваецца на 100 млн. злотых (больш за 23 млн. 600 тыс. еўра). Пры тым усе тут заракаюцца, што прычына пабудовы плота не палітычная і не мілітарная, толькі ветэрынарная. Але як не тлумач, такія платы будуе зараз Літва і Латвія і маюць яны дзве мэты: ахову ад расейскіх зялёных чалавечкаў і ад бескантрольнага патоку патэнцыйных уцекачоў у Еўропу з усходняга напрамку. Тады дзікам прыйдзецца расплаціцца сваім галовамі і за чуму, і за палітыку, а нам давядзецца жыць на мяжы дроту, плота і Еўрасаюза.

❖Яўген ВАПА

# Ян Анісэровіч

## звесткі з Архіва Інстытута нацыянальнай памяці

Лена ГЛАГОЎСКАЯ



Не магу пагадзіцца са сцвярджэннем Алега Латышонка, што ў матэрыялах Інстытута нацыянальнай памяці «няма ніякага следу двайной тоеснасці Яна Анісэровіча (Яшы Бурша) ды нічога, што кранала б яголую дзейнасць у беларускім асяроддзі» (*Чаму замоўк Яша Бурш*, «Ніва» № 17, ад 23.04.2017 г., с. 1). Не займаючыся спецыяльна Янам Анісэровічам, але перагледзеўшы 45 тамоў беларускай справы ў Польшчы пасля Другой сусветнай вайны, я натрапіла на кур'ёзныя звесткі пра розных беларускіх дзеячаў у Польшчы. Сярод іх, вядома, не магло не быць і звестак пра Яшу Бурша.

Калі заснавалася Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы і паявіліся ў ім дзеячы, сталі яны аб'ектам зацікаўлення адпаведных структур не толькі ў Польшчы, але і ў БССР. Адным з разведчыкаў, які атрымаў заданне распазнання на пераломе 1958/1959 г. беларускага асяроддзя ў Польшчы быў «Буран». З дапамогай Віктара Шведа, які ў той час быў актыўным дзеячам БГКТ, удалося без цяжкасцей устанавіць, што быў ім беларускі пісьменнік Алесь Бажко (1918-2013). Віктар Швед памятае яго пабыўку ў Варшаве таго часу і сустрэчы ў БГКТ.

У яго, не пазбаўленых літаратурнага таленту, даносах знаходзяцца і звесткі пра Яна Анісэровіча. У абшырным даносе з 12 студзеня 1959 г. «Буран» пісаў на рускай мове пра шмат каго з тадышніх варшаўскіх і беластоцкіх беларускіх дзеячаў, а сярод іх і пра Яна Анісэровіча. Агентурны данос «Бурана» захоўваецца ў Архіве ІНП у Варшаве (IPN BU 00 231/228/37). Пераклала яго на польскую мову Эдда Тушыньская.

«W czasie pobytu w PRL źródło zapoznało się z wieloma Białorusinami, zamieszkałymi w Białymstoku i w Warszawie. Są to w zasadzie członkowie BTSK, przedstawiciele miejscowej białoruskiej inteligencji". (...) Ale to co źródło usłyszało po kilku dniach od bliskiego Łastowce człowieka — Jana Aniserowicza (zam. W-wa, Żoliborz, ul. Wyspiańskiego 6/8 m. 55), trochę zmienia obraz. Czuje się, że Łastowka jeszcze nie odkrył swego oblicza przed Aniserowiczem, ale w różny sposób na niego wpływa i jak widać zdobył jego zaufanie, albowiem Aniserowicz uważa Łastowkę za b.[ardzo] porządnego i stałego człowieka. Aniserowicz motywuje to w ten sposób, że nie obserwuje się ze strony Łastowki chęci robienia kariery w BTSK, nie ciągnie stamtąd pieniędzy i gotów nawet dołożyć swoje, byleby w BTSK było tak jak należy. (...) Według słów Aniserowicza redaktor (J. Wołkowycki — przyp. H. G.) tej gazety („Niwy" — przyp. H. G.) jest więcej niż dziwnym człowiekiem. Mało kto z miejscowych białoruskich literatów sympatyzuje z nim i to nie dlatego, że Wołkowycki rzadko umieszcza w „Niwie" ich utwory, ale dlatego, że nie-jasna jest jego pozycja jaką on zajmuje w stosunku do miejscowych władz i Związku Radzieckiego. Aniserowicz żałuje, że będąc kiedyś w Moskwie (przejazdem z Leningradu, gdzie Aniserowicz uczył się) udzielił temu człowiekowi mało uwagi, nie poznał się z nim blisko i nie zna jego planów na przyszłość. Teraz by to się wszystko przydało. Może się wydać dziwnym, dlaczego Aniserowicz otwarcie opowiadał o tym wszystkim w rozmowie ze źródłem. Ażeby było bardziej zrozumiałe jak to wszystko wyszło, koniecznym jest chociażby w krótkich słowach streścić wypadki ostatnich dni. (...) Źródło przyjechało z Białegostoku 4 stycznia 1959 r. Była niedziela. Tego dnia źródło się z nikim nie spotykało, ponieważ wyjeżdżając z Białegostoku nie znało kiedy stamtąd wróci i nie umawiało się na spotkanie. (...) Do warszawskiego BTSK źródło zaszło dopiero w poniedziałek, tj. na drugi dzień po przyjeździe. Zastał tylko sekretarza Towarzystwa — Rubczewskiego. (...) Wieczorem — jak umówiliśmy się przez telefon — Łastowka odwiedził źródło. Rozmawiano mało o przede wszystkim o jego opowiadaniach. (...) Teraz Łastowka zbliżył się do miejscowych początkujących poetów, a szczególnie do Aniserowicza, którego wychwala i uspokaja, gdy ten cierpi z powodu niepowodzeń w tejże „Niwie". To ich zbliżyło. Przecież obaj są „pechowcami", a Aniserowicz jest człowiekiem wrażliwym, obrażającym się i do tego jeszcze zarozumiałym — jak o tym się przekonało źródło już przy pierwszym spotkaniu z tym człowiekiem. Spotkanie to miało miejsce w zeszły piątek wieczorem o godz. 18-ej w gmachu BTSK. Tego dnia i w tym czasie powinna się tam odbyć dyskusja na tematy ekonomiczne. Turonek miał wystąpić z referatem, ale jak się okazało, był jeszcze na wyjeździe (świętował Boże Narodzenie w Krynkach). W BTSK było tylko dwoje ludzi — Łastowka i Aniserowicz. Ostatni pisał coś na maszynie. Ujrzawszy źródło Aniserowicz przerwał pracę i narzucił pokrowiec na maszynę. Łastowka zaś zaczął przepraszać, że nie zaszedł do źródła w czwartek — jak to obiecał zrobić na spotkaniu, które odbyło się w poniedziałek. On też świętował, tym razem Trzech Króli i myślał, że źródło przyjdzie do niego na obiad. Mówiąc to Łastowka zaznajomił źródło z Aniserowiczem: „Oto jest poeta, o którym wam mówiłem — powiedział on do źródła. Poznajcie się. Myślę, że dla Aniserowicza będzie to spotkanie przyjemne". (...) Po naleganiu Łastowki Aniserowicz zaczął czytać swoje wiersze. W większości są one nacjonalistyczne, wzywają, by nie zapominać o swoim ojczystym języku i męczeńskiej ojczyźnie, a także o tym, że czasami najlepszy przyjaciel może okazać się zdrajcą. Ponadto przeczytał kilka lirycznych miniatur, źle opracowanych w sensie artystycznym, naiwnych, ale to nie krępowało Łastowkę. Od razu oświadczył, że jeszcze z Aniserowicza będzie korzyść i że jego wiersze, jeżeli nie teraz, to kiedyś znajdą drogę do czytelnika, ponieważ one wzruszają i zawierają w sobie dużo filozofii. Źródło specjalnie nie negowało, powiedział, że słuchając wiersze źle je rozumie, szczególnie gdy są krótkie. Umówili się, że Aniserowicz na wszelki wypadek przyniesie do źródła więcej wierszy i być może, że niektóre z nich będzie można zaproponować mińskim czasopismom. O drugiej godzinie w sobotę Aniserowicz przyniósł swoje wiersze. Tym razem były to wiersze tylko liryczne. Bohater tych wierszy marzy o ojczyźnie, o słonecznych promieniach, chciałby tam pobyć, usłyszeć rodzime słowo. Jednakże i te wynurzenia wymagają gruntownej przeróbki, ażeby je oczyścić od zawiłych zdań i polonizmów, a także i z gramatycznych błędów. Trudno uwierzyć, ażeby Łastowka, który zna poezje Janka Kupały, Jakuba Kołosa, Arkady Kuleszego, Maksima Tanki nie spostrzegł braków u Aniserowicza. Ale nikt tak jak on nie wychwala tego „poety". Aniserowicz przyjmuje to jako rzecz mu należną. On mówi, że Łastowka rozumie go, albowiem to wykształcony i bezinteresowny człowiek i nie to co Wołkowycki, który teraz sam nie pisze wierszy i drugich gani. Jednakże Aniserowicz posłał do Białegostoku około 40 swoich wierszy i spodziewa się, że niektóre z nich zostaną włączone do zbioru młodych poetów Białostocczyzny przez Wołkowyckiego. Aniserowiczowi poradził tak zrobić Łastowka, ale już go przygotował do tego, że te wiersze nie ujrzą światła dziennego. I to może się zdarzyć. (...) Łastowka to dobrze wie, ale kontynuuje podniecanie Aniserowicza i rozjątrzanie go przeciwko Wołkowyckiemu, i innym „konserwatystom". Niektórych już „wygryźli" z odpowiedzialnych stanowisk z kierownictwa BTSK — oświadczył Aniserowicz źródłu. A najwięcej — według jego słów — szkodzili postępowym elementom „Dawidziuk i Kozioł". Kozioł np. wyzywał wszystkich od nacjonalistów, nastawiał jednych członków BTSK przeciwko drugim, śledził za każdym. Rzecz doszła do tego, że po ogólnym zjeździe członków BTSK, na którym nie został wybrany Kozioł, liczni składali sobie z tego powodu wzajemne życzenia. Nawet Wołkowycki był wtedy zadowolony. Aczkolwiek o mało nie poleciał ze swego miejsca. No, ale czasy Kozłowszczyzny, jak mówi Aniserowicz, minęły (powiedział o tym Wołkowycki na jednym z zebrań w Białymstoku, gdy zastanawiano się komu polecić kierownictwo gospodarcze warszawskiego oddziału BTSK). Teraz przed postępowymi elementami stoją inne zadania. Nie należy dopuścić, ażeby w BTSK panowała konserwa. To są źli dyplomaci, nie umieją wykorzystać możliwości, zapominają o najważniejszym — o wychowaniu miejscowej białoruskiej ludności w duchu narodowej dumy. I to dlatego, że większość konserwy wysługuje się polskim władzom, chce zrobić karierę kosztem innych, myśli tylko o swoim dobrobycie. Aniserowicz miał dobre dzieciństwo, aczkolwiek wcześnie stracił ojca. Aniserowicz urodził się w 1929 roku i mieszkał ze swoją matką w Baranowiczach. W czasie niemieckiej okupacji matka zginęła. Rozstrzelali ją Niemcy za kontakty z partyzantami. Czy tak jest rzeczywiście źródło nie wie. Wiadomo tylko, że Aniserowicz rzeczywiście wychowywał się bez rodziców. Wie o tym Łastowka, Turonek i Rubczewski. Szkołę podstawową Aniserowicz ukończył w Baranowiczach, średnią w Toruniu, wyższe wykształcenie w Warszawie (ukończył tu Akademię Sztuk Pięknych). Prócz tego trzy lata uczył się w Leningradzie (dlatego nie służył w polskim wojsku). „Do Leningradu — oświadczył Aniserowicz źródłu — jechałem jako internacjonalista, wierzyłem w bezinteresowną przyjaźń narodów, o której tak dużo mówią i piszą w ZSRR. Potem się rozczarowałem, przekonałem się na przykład jak Litwini nienawidzą Ruskich. To samo mogę powiedzieć o Gruzinach". W Leningradzie Aniserowicz zbliżył się właśnie do tych Litwinów, którzy wierzą w to, że Litwa uzyska samodzielność i oni, ci Litwini, walczą o to. Współczują oni Białorusinom, zaś Aniserowicza lubili jak brata, i prosto mówili mu o swoich planach na przyszłość. Potem, gdy Aniserowicz wrócił do Polski, Łastowka mu na jednym przykładzie pokazał, że i Polacy nienawidzą Ruskich, a z ich powodu i Białorusinów. Rzecz miała się w pociągu. Łastowka, Aniserowicz i jeszcze jeden warszawski Białorusin, początkujący poeta Siśko albo Sieszko [źródło nie zapamiętało nazwiska, ponieważ Aniserowicz powiedział je b.[ardzo] niewyraźnie (prawdopodobnie chodziło o Wiktora Szweda — przyp. H. G.)] jechali z Białegostoku do Warszawy. W przedziale siedziały dwie Polki. Jedna starsza, druga młodziutka. Łastowka zapoznawszy się z nimi rozpoczął rozmowę o nowych porządkach w Polsce, chwalił Rosjan za bezinteresowną pomoc okazaną PRL i ni z tego ni z owego zaczął czytać na głos rosyjskie i białoruskie wiersze, które zna na pamięć. Młoda Polka milczała, ale stara oburzyła się, zaczęła przeklinać Rosjan i powiedziała, że lepiej byłoby, żeby w Polsce byli Niemcy, aniżeli kacapy. Potem odezwała się i młoda. Narzekała, że do polskich szkół zaprowadzili język rosyjski, że go się ceni wyżej aniżeli angielski i francuski i że trzeba go się uczyć nawet wtedy, gdy nie ma się życzenia to robić. Komentując wypowiedzi tych Polek Łastowka powiedział do Aniserowicza, że tego rodzaju wypowiedzi można słyszeć i w innych miejscach i Aniserowicz jest po prostu dzieckiem, jeżeli myśli, że jest inaczej. „Ale wy tęsknicie za swoimi Baranowiczami — powiedziało źródło wysłuchawszy Aniserowicza. To widać w Waszych wierszach". „Tak, chciałbym pobyć w swojej ojczyźnie — zgodził się Aniserowicz, ale chyba mnie tam nie puszczą". „Ale u nas nie jest tak źle, kontynuowało źródło. Wszystkie łąki są na miejscu i Niemen nie wysechł". Aniserowicz milczał, potem obejrzawszy się na drzwi ze złością oświadczył: „Tak, to wszystko jest tak, ale nie chciałbym tam mieszkać. Sowieci pokazali się w 1939 r., gdy wywozili na Syberię wszystkich niewygodnych sobie ludzi. A ilu nieszczęsnych uciekło na zachód? Mam już 30 lat i wiem, że powinno być inaczej". Dlaczego nie żenicie się i nie urządzacie się na stale — zapytało źródło, aczkolwiek wiedziało, że Aniserowicz jest żonaty i pracuje jako wykładowca w jednej ze średnich szkół w Warszawie. Jestem żonaty — odpowiedział Aniserowicz. Żona Polka? Tak Polka. Pracuje w Akademii — powiedział Aniserowicz. A wy jesteście żonaci? Oczywiście, odpowiedziało źródło. Ożeniłem się w Syberii. Turonek widział moją żonę i dzieci. Potem znowu rozpoczęli rozmowę na temat wyjazdu. Aniserowicz przyznał się, że z porady Łastowki przyniósł tylko liryczne wiersze, ale teraz już żałuje. Przekonał się, że źródło rozumie się na wierszach, otwarcie wypowiadało swoje uwagi o nich i Aniserowicz zgadza się z nimi. Rzeczywiście on powinien jeszcze pracować dużo nad sobą, żeby dobrze pisać. Byłby bardzo zadowolony, żeby chociaż jeden wiersz był wydrukowany w Mińsku. W tym celu zostawia źródłu na wszelki wypadek kilka swoich wierszy. Zapytał się, czy źródło nie potrzebuje czegoś, dał mu swój adres i prosił, by źródło nie zapomniało o nim i pisało o swoich sprawach w Mińsku. A ja będę pisać o naszych — powiedział Aniserowicz. „Mogę napisać, jeżeli trzeba, artykuł o życiu w Warszawie". I źródło powiedziało, że byłoby to niezłe i dał Aniserowiczowi swój adres. Stanęło na tym, że Aniserowicz jeszcze odwiedzi źródło, zanim ono wyjedzie do Mińska. Wyznaczyli spotkanie na niedzielę. Aniserowicz obiecał przyjść z żoną. Jednakże coś przeszkodziło mu to zrobić. W najbliższych dniach źródło wyjaśni w czym rzecz. Aniserowicz jest przekonany, że między Polakami i Rosjanami dojdzie nieuchronnie do zderzenia z powodu ziem wschodnich, tj. wileńskiego, grodnieńskiego i lwowskiego woj.[ewództw]. Jeżeli polscy komuniści ustąpili ZSRR, to nie znaczy to, że wszyscy Polacy są zgodni z oderwaniem ww. województw od Polski. Ziemie zachodnie odebrane od hitlerowców nie urządzają ich. Skomplikowało to tylko sytuację w Europie, jeszcze bardziej rozzłościło Niemców i oni nie dadzą spokoju Polsce, póki nie zabiorą swego z powrotem Polsce. Dużo Polaków znajduje się na emigracji. Po październiku 1956 r. rząd polski zaczął pomagać emigrantom tam, gdzie to jest możliwe. Na Węgrzech np. po dziś dzień mieszka około 4 tys. polskich emigrantów. Mają tam 15 klubów. Polskie poselstwo opiekuje się tymi Polakami. A o Białorusinach w Polsce nie myślą. Tylko na Białostocczyźnie — według Aniserowicza — mieszka ponad 200 tys. Białorusinów. A co oni mają prócz „Niwy"? W Polsce nie ma ani jednego Białoruskiego

працяг ☞ 4

klubu. Radzieckie poselstwo nie zwraca na to uwagi. Gdy w Polsce była delegacja na czele z I Sekretarzem KC KPB — Mazurowym, kierownicy warszawskiego oddziału BTSK usiłowali dostać się do Mazurowa, pomówić z nim o tym, by miejscowi Białorusini mogli częściej bywać w Mińsku, żeby byli włączani w skład polskiej delegacji, które wyjeżdżają do ZSRR. Ale Mazurow jakoby nawet nie chciał słyszeć o tym. Nie przypadkowo — według zdania Aniserowicza — Białoruski Chór z Białegostoku mógł odwiedzić tylko Grodno. Do Mińska i innych miast BSRR jego nie puścili. Aktualnie chór ten wyjeżdża na gościnne występy do polskich wojewódzkich miast. Dlaczego go nie zechcieli zaprosić na Białoruś? Polacy, którzy o tym wiedzą, wyśmiewają się z Aniserowicza i innych członków BTSK. A sytuacja zmieni się na lepsze wtedy, gdy zaczną mówić o tym w BSRR. Trzeba, ażeby i pisarze nie stali na boku i żeby poparli swoich współrodaków w Polsce. Ale oni się boją. I nie życzą sobie tego robić, ażeby nie ściągnąć na siebie podejrzeń. Mówiąc o tym Aniserowicz zapytał się jak się ma białoruski poeta Michaś Maszara. Źródło powiedziało, że Maszara aktualnie choruje, męczy go astma. Powiedział również o tym, że Maszarze wyznaczono osobistą pensję. Marzy on i o czymś innym, ale nie bardzo chętnie go drukują. Aniserowicz posiada bliskich przyjaciół wśród Polaków. Do Moskwy przyjeżdżał do jakiegoś młodego polskiego muzyka, który się tam uczył. W Moskwie Aniserowicz bliżej zaznajomił się z polskim poetą Wiktorem Woroszylskim i teraz z nim się przyjaźni. Zna również absolwenta Moskiewskiego Instytutu Literatury im. Gorkiego Jerzego Pachlewskiego. Do Pachlewskiego zbliżyło Aniserowicza to, że on również był w swoim czasie bez rodziny — wcześnie osierocony. „Z takimi jak ci Polacy można mieć sprawy” — powiedział Aniserowicz i bardzo się ożywił gdy się dowiedział, że i źródło zna ich dobrze”.

Столькі пра Я. Анісэровіча ў занатоўцы «Бурана». Не была яна абыякавай для службаў. Палкоўнік Міхайлаў, які яе прыняў, аднатаваў: «Na spotkaniu agent oświadczył, że zamierza pobyć w PRL do około 17-18 stycznia b.r. i w międzyczasie spotkać się z Łastowką i Aniserowiczem». Аднак відаць «Буран» не сустрэўся з вышэйзгаданымі дзеячамі, бо 15 студзеня выехаў у Мінск.

20 студзеня 1959 г. палкоўнік Міхайлаў запісаў заданне: „W rozmowie z Aniserowiczem umówcie się, by przy pomocy korespondencji (adresami żeście się wymienili wcześniej) i innymi możliwościami podtrzymywali kontakt. Pod niewinnym pozorem wznówcie z nim rozmowę o sytuacji białoruskiej mniejszości narodowej w PRL. W rozmowie tej postarajcie się wyjaśnić, jakie są przyczyny jego złości w stosunku do Związku Radzieckiego i osoby, które na niego działają w tej sprawie. Czy podtrzymuje on kontakt ze studentami z Litewskiej SRR w Leningradzie i charakter tych kontaktów”.

21 студзеня 1959 г. за згодай палкоўніка Міхайлава адна копія матэрыялаў атрыманых ад агента «Бурана» была перададзена у III Дэпартамент Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы дзеля аперацыйнага выкарыстання пры распрацоўванні беларускіх дзеячаў у Польшчы, пэўна таксама Яна Анісэровіча.

У справе захаваліся таксама службовыя нататкі пра перададзеныя маёрам Т. Шуманьскім (наместнікам начальніка III аддзялення III Дэпартамента МУС) — без распіскі — грошы агенту органаў бяспекі БССР пс. «Буран» з 23 снежня 1958 г. — 2000 злотых «na zakup płaszcza» і з 14 студзеня 1959 г. — 1000 злотых.

Як вынікае з дакументаў у папцы пра супрацоўніцтва з органамі бяспекі БССР і беларускі нацыяналізм у 1958-1966 гг., толькі 10 красавіка 1970 г. трапіла яна у архіў — пасля выкарыстання. Відаць на працягу 12 гадоў яна прыдавалася ў працы, пэўна таксама дзеля распрацоўкі Яна Анісэровіча.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**
**25 чэрвеня 2017 г.**

# Падляшска-варшаўскія кантрасты

Доктар навук Гражыну Харытанюк-Міхей запрасілі ў Супрасль. З Крынак у Супрасль, як гаворыцца, рукой падаць. Таму і я туды зараз прыехала, каб у першую чаргу сустрэцца з сяброўкай. Нашы з Гражынай сустрэчы, а часцей кантакты па тэлефоне, заўсёды плённыя ў глыбокую рэфлексію, пазбаўленую бабскага пустаслоўя. Няйначай было і ў гэты раз. Неспадзявана я стала важнай часткай яе супрасльскага даклада пад загалоўкам „Культура і веравызнанні Усходу”. Нашымі слухачамі былі вучні і настаўнікі XXVII Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Тадэвуша Чацкага ў Варшаве — удзельнікі навуковага гуманістычнага летніка ў Супраслі.

Сумеснае выступленне перад ліцэістамі было даволі дынамічным і кантрастным з прысутнасцю так рэдкай цяпер свабоды думак і светапоглядаў. Як казалі калісь у вёсках усходняй сцяны нашага ваяводства, на поўдзень ад ракі Нарвы жывуць падляшукі, на поўнач — ліцьвіны. Быццам адзін беларускі народ, але як жа поўны розніц і кантрастаў у гаворках, адносінах да рэлігіі ці пашане ўласнай традыцыі. А калі яшчэ дакласці індывідуальныя розніцы паміж мной і Гражынай, тады можна сабе ўявіць цэлую бурлівасць спаткання.

Цэнтрам даклада была надзвычай цэнная калекцыя старых фотаздымкаў і дакументаў з сямейнага архіва Гражыны, звязаных з вершалінскім прарокам Ільёй. Нашы слухачы яшчэ не астылі ад уражанняў з папярэдняга дня, спектакля „Бог Ніжынскі” ў супрасльскім Тэатры «Вершалін». Якім быў той Вяршалін? Сур’ёзныя твары ільінцаў глядзяць з пажаўцелых фотаздымкаў, у руках іконы, далей запіскі кірыліцай на вокладках старых расейскіх малітоўнікаў. З аднаго боку шчырая вера ў моц прарока немалой часткі падляшскага народа, з другога — поўны скептыцызм яго суседзяў з-за плота — ліцьвіноў. Гісторыі пра вершалінскія цуды яшчэ жывыя. Дастаткова на Яна альбо Ілью наведаць грыбаўскую царкву, услухацца ў аповеды бабуль, якія гавораць на чужым Грыбоўшчыне падляшскім дыялекце беларускай мовы. Слухачоў пакідаем з поўнай свабодай выбару іх уласнага ўяўлення пра Вершалін. У тым па-мойму заключаецца сэнс сапраўднай адукацыі.

Некаторым з варшаўскіх вучняў паездка ў Супрасль была своеасаблівым вяртаннем да каранёў. Рыхтаваліся яны




■ **Вокладка буклета летніка варшаўскіх ліцэістаў.**

да гэтага доўга і сур’ёзна, хаця б цераз інсцэнізацыю „Сонькі” Ігната Карповіча.

— Дзяўчаты нават белым голасам навучыліся спяваць, а пасля спектакля моладзь плакала ад хвалявання і прыгожасці, — кажа настаўніца Эва Юшчак. — Карповічу належыцца Нобелеўская літаратурная прэмія за балючую, нечаканую праўду, пра якую не гаворыцца.

Як выявілася, продкі некаторых тутэйшых варшавякаў у міжваенны перыяд былі засланымі з цэнтральнай Польшчы паланізатарамі. Гэтай нямала важнай гістарычнай адметнасці таксама прысвяцілі мы некалькі хвілін.

Пасля сустрэча перанеслася на зялёную траўку, дзе разам з Гражынай адказвалі мы на розныя пытанні. Моладзь цікавілася, між іншым, сітуацыяй беларускай мовы ў маладога пакалення і значэннем рэлігійнасці ў жыцці беларускай меншасці.

Пыталі пра жыдоў і татараў, пра народную музыку. Не абышлося без самой песні. Ізноў паплылі слёзы хвалявання ад сумнай „Зялёная вішня, з-пад кораня выйшла, дала мяне маці, дзе я не прывыкша”.

Малады чалавек — заўзяты акардэаніст настолькі зацікавіўся, што рашыў сур’ёзна заняцца нашай музыкай. Папрасіў пра канкрэтную літаратуру.

Гаворачы пра меншасныя культурныя ініцыятывы, я ўзгадала варшаўскіх дзеячаў, якія, не ведаўшы нічога пра нас, гавораць кім мы ёсць і як павінны весці сябе ў гэтым свеце. Яны цэлую беларускую культуру зводзяць да папулярнага беластоцкага „следзя”, а тэрмін „беларускія Дзяды” ці „беларускае школьніцтва” — да небяспечнага дактрынёрства.

Прагучала крыху абразліва, але па-сапраўднаму. Сакрат Яновіч заўсёды заклікаў гаварыць і пісаць толькі праўду.

Усё-такі ёсць і іншая старонка медаля. Варшава інтэлектуальная, свабодная — процілегласць цемнаты правінцыі. Прыкладам з’яўляюцца менавіта школьнікі і настаўнікі гэтага ліцэя.

— Мы прыехалі сюды перш за ўсё дзеля Тэатра «Вершалін», — сказала на канец настаўніца Івона Кульпа-Шустак. — Мы захапіліся Усходам, іншасцю Супраслі, яе іконамі, містыкай. Усё гэта для нас незвычайнае. Магу сказаць, што з выбарам месца мы не памыліліся. Жаль толькі, што тутэйшыя гэтага не цэняць, не прызнаюцца да свайго паходжання.

Зразу пасля спаткання нашы госці пайшлі на вячэрню ў супрасльскую лаўру, а мы з Гражынай на „Вечар аповедаў” у супрасльскі дом культуры. Прывіталі нас там аніматары — стваральнікі спектакля пра мясцовых. „Тэатр з грамадствам” — так назвалі свой праект.

— Прыехалі мы сюды з цэлай Польшчы, але папраўдзе склікаў нас фонд „Драма ўэй” [„Drama Way” — чуць не Дармаед] з Варшавы”, — гаворыць адна з удзельніц праекта.

— Прапануем кароткую размінку, якая пераломвае бар’еры, — няўпэўнена загаварыў вядучы мерапрыемства малады чалавек. — Будзем вітацца дзвюма рукамі з дзвюма асобамі адначасна, і трэба сказаць „чэсьць, естэм Міхал”. А цяпер вяртаемся ў часе і гаворым яшчэ раз „чэсьць, естэм Міхал”.

І няма іншага варыянта, папросту мусова здацца ўладанню, а як хто хоча чараванню варшаўскага гіпнатызёра.

Зала пастулова пападае ў хаос. Гудзіць быццам у вулеі, у які мядзведзь толькі што сунуў лапу. Але, праўду кажучы, у жыцці заўсёды ёсць выбар. Уцякаем з Гражынай як найдалей з гэтага месца. Вось табе супрасльскія варшаўскія гісторыі. Вось табе варшаўская культура. Толькі жаль бабулі ў хустцы, з кiёчкам, якую пасадзілі ў першым радку. Ёй уцячы больш складана.

**Іаанна ЧАБАН**

# „Купальночка”

Купалле — адно з найстарэйшых і любімых у народзе святаў. Гэта свята вяршыні лета, росквіту прыроды, выяўлення яе магутных сіл, а таксама ў гонар сонца, якое ў гэты час дасягае свайго апагею.

У пятніцу, 7 ліпеня гэтага года, Гміннае ўпраўленне і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы Гайнаўскага павета ладзілі традыцыйнае летняе святкаванне купальскай ночы. Яно пачалося а гадзіне 19.30 карагодам фальклорных калектываў, якія са спевам „Купаліка, купалінка” неслі вянкі, сплеценыя з кветак. Жыхары Нараўшчыны мелі магчымасць паглядзець мастацкія калектывы з Беларусі — „Росніцу” з Гродна і „Беларусаў” з Мінска ды „Цаглінкі” са Старога Ляўкова, „Світанак” і „Калінку” з Беластока ды „Сэвен” з Бельска-Падляшскага.

Сабралася многа людзей. Хаця маем зараз ліпень, то на Яна вечарам і ноччу было ў меру пагодліва, але ж і халаднавата. Можа таму, што ад амфітэатра да ракі рукой падаць. На нараўчанскай сцэне першым выступіў у народных касцюмах фальклорны калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова. Выканаў ён, між іншым, новую „Купалінку” на словы Мікалая Варанецкага з Альхоўкі і з музыкай Мікалая Мяжэннага, музычнага кіраўніка „Цаглінак”. На змену стараляўкоўскаму калектыву прыйшла „Калінка” з Беластока. Спявала яна песні, між іншым, „Дарма Ясю ходзіш”, „На вуліцы мокра”, „Як паеду я на трактары”, „Плакучая гітара”, „Ой доля мая сінія вочы„ і „Зямля мая, зямля”. Дзяўчаты з „Калінкі” прыгожа спявалі ды танцавалі. А перад сцэнай закружыліся першыя пары.



■ **«Цаглінкі»**

Цікава зарэкамендаваў сябе прыгожымі галасамі жаночы настаўніцкі калектыў „Світанак” з Беластока. Спяваў ён песні пра каханне, між іншым, „Сядзіць голуб на бярозе, а галубка на вішні”, „А я стану на парозе”, „Гэй, маладосць”. На канец свайго выступу заспяваў „Чарку на пасашок”.

Гродзенская „Росніца” выканала музыку, пры якой маладыя юнакі і дзяўчаты ахвотна танцавалі. Артысты сышлі са сцэны і запрашалі ўсіх танчыць. Выконвалі яны мелодыі „Купалінка, купалінка” (стала яна гімнам ліпеньскага магічнага вечара і ночы), „Ехалі казакі”, „Цвіце, цвіце чарамшына”, „Сёння ў нашай хаце свята”. На ўкраінскай і рускай мовах спяваў гурт „Сэвен” з Бельска-Падляшскага. Нам гэтыя мовы зразумелыя як і свая. Пры гэтых мелодыях моладзь разварушылася, разгулялася. А тут яшчэ і і гучная песня „Свадзьба” на канец. Зараз за гуртам „Сэвен” на сцэну выйшаў з цэлым камплектам музычных інструментаў гурт „Нарва” з Нарвы. Музыканты зайгралі адмыслова. Іх музыка на высокім узроўні. Пры ёй было многа ахвотных асоб да танцаў. Плылі песня за песняй: „Ой, на горы”, „Чорны очка”, „Ой у полі крынічэнька” , „Смэрэко” і „Вяне рута”.

Фурор выклікаў мужчынскі гурт „Беларусы” з Мінска (Беларусь). Яго арганізатары Купалля назвалі зоркай вечара. Вось дык моцныя звонкія галасы! Гурт спяваў песні на чатырох мовах. Першай песняй была „Белавежская пушча”, а апошняй — песня-малітва „Ave Maria”. На „біс” праспявалі песню „Там у полі вярба”. „Беларусы” выступалі ў шматлікіх краінах свету.

Каля поўначы дзяўчаты пускалі вянкі з летніх кветак на раку Нараўку. Сёлета атракцыёнам быў Тэатр агню. І праз некаторы час з трэскам і гукам успыхнулі ў цёмным небе феерверкі.

Да белага рання ў Нараўцы было гучна. Прыгожыя мелодыі да танца граў „Аксель”. Па-над вёскай лунала бравурная музыка. Ля сцэны ішлі танцы. Танцоры не хацелі разыходзіцца дадому. Музыка запрашала на гулянне. Купалле, Купалле... Свята вяршыні лета.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Пярэдняя дамба супраць беларусаў

Фота Аляксандра Вярбіцкага

працяг з 28 н-ра «Нівы»



## Шырокі размах на наша

Шырокі размах дзяржаўных рук па нашу зямлю шыкаваўся добра па-за «чашу» Семяноўскага возера і тэрыторыю пад канал Нарва — Супрасль. 3 лістапада 1979 г., чуць перад зазімкамі, у Ваяводскую ўправу сельскіх інвестыцый (вул. Варынскага, 8 у Беластоку) прыйшоў *пільны* ліст ад Ваяводскага бюро геадэзіі. Датычыў ён дзяржаўных і грамадскіх грунтоў, якія мелі ўвайсці ў пояс канала Нарва — Супрасль.

«Як вынікае з геадэзічнай дакументацыі, падрыхтаванай для экспрапрыяцыі грунтоў пад канал Нарва — Супрасль, у гэтым поясе, апрача прыватных грунтоў знаходзяцца таксама грунты, якія належаць Дзяржаўнаму фонду зямлі і іншыя грунты, якія не з'яўляюцца прыватнымі. Наконт прыватных грунтоў выдадзены ўжо рашэнні аб экспрапрыяцыі. Не хапае аднак рашэнняў і здаўча-атрымальных пратаколаў адносна грунтоў Дзяржаўнага фонду зямлі і апошніх, якія не знаходзяцца ў прыватных руках. Пры ўвядзенні змен у спісе грунтоў такія пратаколы з'яўляюцца неабходнымі. Афармленне вышэйпамянёнай справы трэба трактаваць як пільную, па прычыне распачацця ліквідацыі цераспалосіцы ў наступных мясцовасцях: вёска Супруны-Калясное, Біндзюга, Плянты, Аднога, Баршчэва, Сушча,Ціванюкі, Таніца-Верхняя, Таніца-Ніжняя...».

Ваяводская УСІ 20 лістапада 1979 г. турбуе Начальніка гміны ў Міхалове заявай датычнай перадачы грунтоў ДФЗ пад канал Нарва — Супрасль, прыгадваючы тое распараджэнне Рады Міністраў ад 22.11.1968 г. у справе перадачы сельскіх нерухомасцей і некаторых іншых распаложаных на тэрыторыі «грамад» паміж адзінкамі дзяржаўнай гаспадаркі — *просіць* перадачы грунтоў уведзеных у далучаны спіс Ваяводскай управе сельскіх інвестыцый, далучаючы спісак экспрапрыяваных зямель, экспрапрыяцыйныя карты, ацэнку коштаў, іпатэчныя даследаванні, адбіткі рашэнняў. Як адзначаюць у лісце з націскам, гэтыя нерухомасці *неабходныя для пабудовы* канала Нарва — Супрасль у вёсках **Кухмы** і **Ціванюкі** — у гэтым спісе пералічаны ўласнікі, якія не атрымалі за свае заменных грунтоў такіх, якіх хацелі. Належнасць за тыя грунты мае быць выплачана начальнікам Міхалоўскай гміны.

А 24 жніўня 1982 г. высылаюць заяву грамадзяніну Начальніку гміны ў Гарадку аб экспрапрыяцыі грунтоў з абсягу вёскі Меляшкі пад канал Нарва — Супрасль, у «інвестцыйным мерапрыемстве» «Вадасховішча Семяноўка». На падставе артыкулаў з 12.03.1958 г. і згодна з рашэннем Беластоцкага ваяводы ад 16.07.1976 г. ВУСІ прапануе экспрапрыяцыю грунтоў распаложаных у вёсцы Меляшкі, будучых уласнасцю наступных грамадзян: Аляксея Шусціка с. Міхала — участак № 41/2 велічынёй 0,0730 га і ўчастак № 980/2 абшарам 0,0848 га, Мікалая Ціванюка с. Мікалая і яго жонкі Кацярыны з калёніі Меляшкі — участак № 2/5 паверхняй 0,0340 га. Гэтыя грунты — лугі IV, V і VI класа. «Тутэйшая ўправа выступіла з заявай на **дабравольнае** ўступленне з грунтоў, на што грамадзянін Аляксей Шусцік не выказаў згоды, і патрабаваў замену грунтоў, а грамадзянін Мікалай Ціванюк патрабаваў большай кампенсацыі. Заява тутэйшай Управы наконт замены грунтоў грамадзяніну А. Шусціку была афорлмлена адмоўна (ліст Ваяводскага бюро геадэзіі і сельскіх тэрыторый у Гайнаўцы № WBG. Or.Sc.473/259/81 ад дня 6.11.1981 г. У сувязі з гэтым ВУСІ ў Беластоку ахоплівае для экспрапрыяцыі вышэйпералічаныя грунты, якія з'яўляюцца **неабходнымі** для рэалізацыі вадасховішча Семяноўка».

Начальнік гміны ў Гарадку Аляксандр Бура 27.03.1979 г. мусіў скласці спісак уласнікаў грунтоў з Меляшкоў, калёніі Меляшкі і Падазеран, якія яны мусілі перадаць «на патрэбы вадасховішча Семяноўка». Гэта часам малюсенькія ўчасткі, які дасталіся гаспадарам ад продкаў, беларусаў, якія пражывалі тут стагоддзі. Гэта Ярмолік Анатоль сын Аляксандра і яго жонка Вера, Пятэльскі Уладзімір с. Антона і яго жонка Ніна, Марцінчык Васіль с. Сцяпана і яго жонка Варвара, Карповіч Ян с. Юльяна, Тарасевіч Марыя дачка Яна і Тарасевіч Мікалай с. Аляксандра, Рожка Ян с. Міхала і яго жонка Кацярына, Тарасевіч Мікалай с. Аляксандра і яго жонка Вера з Меляшкоў, Грыка Міхал с. Міхала з Падазеран, Кастэнчык Павел с. Яна і яго жонка Надзея, Дарашкевіч Ян с. Мікалая і яго жонка Галена, Дарашкевіч Уладзімір с. Юльяна, Чэмель Юльян с. Нікіфара, Чэмель Анатоль с. Міхала, Ярмолік Уладзімір сын Восіпа. Валянцін Дарашкевіч з жонкай Валянцінай і Аляксей Шусцік с. Міхала з жонкай Надзеяй дабіліся, што за ўчасткі іх роднай зямлі атрымаюць іншыя.

Бывала так, што рашэнне адмянялася, паколькі «сяляне былі няправільна ўпісаны». Ваяводскае бюро геадэзіі піша 23.04.1981 г. ВУСІ ў Беластоку аб экспрапрыяцыі нерухомасцей і выплаце кампенсацый жыхарам беларускамоўных (праваслаўных і каталіцкіх) мясцовасцей, высвятляючы: пазіцыя 1 — сялянская гаспадарка ў вёсцы Ялоўка гм. Міхалова разам з грунтамі ў вёсцы Цісоўка запісаная на грамадзяніна Ціжынскага Яна сына Вінцука і жонку Марыю ды Ціжынскую Ядвігу дачку Яна, пражываючых у Ялоўцы, рашэннем Начальніка гміны ў Міхалове № 70194-1/80 пераняты ў дзяржаўную казну ўзамен за рэнту. Пазіцыя 5 — гаспадарка ў вёсцы Ялоўка разам з грунтамі ў вёсцы Цісоўка запісаныя на сужэнства Урвановічаў Сцяпана і Станіславу рашэннем Начальніка гміны ў Міхалове № 70191-61/79 ад дня 27.01.1979 г. перанята ў дзяржаўную казну ўзамен за сялянскую рэнту... У пазіцыі № 10 тых участачкаў тузін, а ўсяго разам 0,10 гектара, і нават прозвішчы гаспадароў не пералічаны — усе яны аддалі свае кавалачкі роднай зямлі ў дзяржаўную казну...

І тут бюро геадэзіі звяртае ўвагу ВУСІ, што прыходзячыя ў тутэйшы аддзел рашэнні Начальніка гміны ў Міхалове ў некалькіх выпадках датычаць гаспадарак, якія «ў міжчассі былі пераняты па іншых правілах і *zachodzi domniemanie*, што сяляне ўхітрыліся і патрабуюць яшчэ аддачы грунтоў у дзяржаўную казну, хаця, мабыць, атрымалі яшчэ і кампенсацыю за іх! Значыць, **хочуць нажыцца**! Таму трэба, паводле чыноўнікаў, перад выдачай рашэння аб экспрапрыяцыі грунтоў зрабіць дакладны спісак уласнікаў, пераслаць іх інвестарам, каб яны кантралявалі яго з гаспадарчымі картамі, што знаходзяцца ў гмінных управах, дадаткова з чыноўнікам, які вядзе «**sprawy przejęć**» гаспадарак узамен за рэнту, а таксама зверыць усё з Зямельнай службай у гміннай управе.

Калі ўжо згодна з распараджэннямі аб гаспадарцы грунтамі і экспрапрыяцыі нерухомасцей Рады Міністраў у дэталёвым законе аб прынцыпах і спосабе аддачы пад кіраванне дзяржаўных ужо нерухомасцей, наступіла передача гэтых абэзлюджаных зямель «паміж дзяржаўнымі адзінкамі» і разлікі ўжо паміж імі. Між іншым у Раённай управе ў Гайнаўцы 15.123.1991 г. вырашана пагасіць правы Ваяводскай управы меліярацыі і водных установак на нерухомасці ў вёсцы Лука і Слабодка і перадаць іх на іншыя дзяржаўныя арганізацыйныя адзінкі і разлік з імі — на ўчасткі 918, 920 923, 925, 926, 927, 928, 930, 936, 940, 941, 942, 942.1, палову ўчастка 939. Гэта проста лікі. Гэта проста людзі. Беларускія сем'і ад стагоддзяў. Гэта ўчасткі паверхняй разам у 2 335 гектараў. А чаму? Таму што гэтыя грунты былі экспрапрыяваны на патрэбы вадасховішча Семяноўка, а распаложаны яны **па-за абсягам** інвестыцыі і яны **непатрэбныя** — ZBĘDNE! — Ваяводскай управе меліярацыі і водных установак.

Аб іх лішнясці для мерапрыемства ведома Гмінная управе ў Нараўцы ўжо ад 15 снежня 1991 года, ад часу, калі ўзяла яна між іншым іх у сваё распараджэнне. Можа на іх паставіць арэлі, можа прадаць іншым. Хоць добра ведае, што права на яе маюць спадчыннікі тых, каго выгналі з роднай зямлі.

(працяг будзе)

Міра ЛУКША

## На рэабілітацыйным аддзяленні

Каб трапіць на рэабілітацыйнае аддзяленне бальніцы ў Гайнаўцы, трэба быць шчаслівіцам і выканаць асноўны прынцып — мець накіраванне ад лекара-спецыяліста. Мне накіраванне выпісаў сямейны лекар. Каардынатар аддзялення, які вядзе рэгістрацыю заявак, сказаў: «Не важна. Неабходная пісулька ад лекара-спецыяліста або рэабілітацыйнай амбулаторыі». Пацвердзіла гэта ў службовым пісьме намеснік дырэктара па медычных справах. Падаўся я ў Гайнаўку да неўролага, у якой лячуся. Ветлівая пані доктар прыняла мяне па-за чаргою. Выпісала без праблемы накіраванне ў шпіталь на аснове пасведчання сямейнага лекара. Засталося адно прапісацца і чакаць у чарзе. І тут мне пашанцавала. Не прыйшлося доўга чакаць. Каардынатар вызначыў самы бліжэйшы тэрмін пасля Вялікадня — 22 траўня.

У прыёмнай палаце чакаў я больш за дзве гадзіны. Дзясятым быў я ў чарзе. Медсястра скрупулёзна запісала даныя, дзяжурны лекар адно канчаткова паставіў свае ініцыялы на дакуменце. Затым павялі мяне на рэабілітацыйнае аддзяленне. Вызначылі палату № 10. Кампаньёнамі маімі аказаліся два ранейшыя пацыенты — Пятрусь з Мельніка і Войтак з Бельска-Падляшскага, затым «навічок» Лёнік з Гайнаўкі, ураджэнец Мора. Ад пяцідзесяці гадоў пражывае ён у Гайнаўцы, паўкіламетра ад шпіталя.

Пасля абеду прыйшла вядучая лекар і правяла абследаванне. Падрабязна запісала мае хваробы, затым загадала: «На вечар нічога не спажываць. Раніцай возьмуць кроў і мачу для абследавання. Трэба быць нашча». Так я стаў пацыентам рэабілітацыйнага аддзялення. Вядучая лекар у час абследавання запісала мне сем фізіятэрапеўтычных практыкаванняў на мае балючыя суставы ног. Практыкаванні пачыналіся з ранку пасля снедання і доўжыліся да абеду. Варта адзначыць, што ў занятках удзельнічалі не толькі шпітальныя пацыенты, але і прыходныя з горада з накіраваннямі. Так што прыходзілася чакаць у чарзе. Паколькі шпітальным пацыентам практыкаванні па суботах вызначаліся з 8 да 10 гадзіны раніцы, дык прыходным такіх заняткаў не было. Пасля абеду быў вольны час, які ў асноўным выкарыстоўвалі мы на агляданне тэлебачання. У кожнай палаце быў тэлевізар, які можна было аглядаць да волі бясплатна. Я займаўся пісаннем свайго дзённіка і размаўляў з сябрамі, якіх пазнаў у час шпіталізацыі. Але аб гэтым раскажу ў чарговым допісе.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

Фота Ганны Кандрацюк



Рэдакцыя «Белы слон»

# Каменьчык

Баба Ліда жыла ў старой хаце ля краю лесу. Яна вельмі любіла спеў птушак. Штодзень хадзіла па лесе і думала аб сваім жыцці...

Аднойчы Ліда знайшла невялікі каменьчык. Яна схілілася і пабачыла яго незвычайнасць. Гэты каменьчык адрозніваўся ад усіх іншых. Яго колер нагадваў парасятка ў чорныя кропкі. Баба Ліда ўзяла каменьчык і прынесла ў хату.

Надыходзіла ноч. Ліда паклала камень на стол і пайшла спаць. Калі раніцай яна прачнулася, праз адкрытае акно ўляцела ў хату птушка. Яна паглядзела з цікавасцю на каменьчык, памахала крыламі і адляцела. Ліда села за стол і пачала думаць пра сняданак. На жаль, у хаце не было яды. Бабуля сумным галасам прамовіла да каменя:

— Скажы, маленькі, чаму мне так цяжка жыць?

— Не наракай, бабка, — адказаў каменьчык, — табе не цяжка жыць, ты проста не ўмееш быць шчаслівай.

— Што мне рабіць?

— Я маю для цябе прапанову. Калі ты вакол сябе ўгледзіш самае важнае ў жыцці, я зраблю цябе багатай.

Баба Ліда падумала і прыгадала, што яна ніколі не крыўдзіла звяроў, заўсёды любіла лес і прыроду. Кожны дзень любавалася спевам птушак, карміла жывёлу і захаплялася шумам дрэў. Усё гэта, аднак, здавалася ёй звычайнай справай.

Што ж тады самае важнае ў жыцці? — думала яна.

Наступнай раніцай яна зноў прачнулася галоднай і сказала каменю:

— Я не ведаю як адгадаць тваю прапанову. Пайду на рынак і прадам цябе, можа нехта дасць за цябе бохан хлеба.

Баба Ліда ўзяла каменьчык і пайшла ў горад. Чалавек, які ўбачыў камень, згадзіўся даць за яго бохан хлеба. Яна цешылася, што праз нейкі час не будзе галоднай. Па дарозе, аднак, сустрэла малую, сумную дзяўчынку. У яе не было бацькоў, сіротка жыла з беднай бабуляй. Ліда, без аглядкі аддала свой хлеб дзіцяці, які атрымала за камень.

— Лепш быць галоднай, чым глядзець на галодныя вочы дзіцяці, — падумала яна.

Калі Ліда вярнулася дахаты, яна не магла паверыць вачам. Ад уражання села на крэсла і моцна заплакала. Усюды было многа багацця і яды. Праз акно зноў прыляцела птушка, якую баба Ліда бачыла раніцай.

— Бачу, ты зразумела, што найважнейшае ў жыцці — дапамагаць іншым, — сказала птушка і адляцела.

**Караліна Каравай і Оля Зінкевіч**,
рэдакцыя «Белы слон»



# Сапраўдны сябар

Часам варта падумаць пра простую, здавалася б рэч, якой з'яўляецца сяброўства. Я сам у гэтым пераканаўся. Я першы раз на Сустрэчах «Зоркі» і адразу пазнаў шмат цікавых людзей. Ужо ў першую ноч мы згаварыліся, доўга размаўлялі і смяяліся. На жаль, у гэты час, калі ўсе жартавалі, мы з сяброўкай абарвалі клямку. Я вельмі спалохаўся. Мы стараліся яе наладзіць, напрыклад, прыклеіць ліпкай стужкай, прыкруціць нажом. Усё дарэмна! Клямка не трымалася. Мы не ведалі што зрабіць, як наладзіць шкоду.

І тут прыйшоў з дапамогай мой новы сябар.

Хаця мы пазнаёміліся некалькі гадзін раней, ён пра нішто не спытаў. Узяў у рукі клямку, паглядзеў, падумаў і ўсё наладзіў.

Чарговы раз я пераканаўся, што старая прымаўка вечна маладая і актуальная:

— Сапраўднага сябра можам пазнаць толькі ў бядзе!

**Давід ДЗІКОЎСКІ**,
рэдакцыя «*Белы слон*», вучань бельскай «тройкі»

Паўліна Ёдла,
рэдакцыя «Васілёк»
(вучаніца бельскай «тройкі»)

# Кошка і сабака

Кошка ранкам галодная была,
у сабакі мяса выбрала.
Дык сабака злосны стаў,
і без мяса астаў.
Цёмная ночка была,
кошка хутка знікла.
НЛА* прыляцела,
сабаку закруціла.
Людзі не бачылі,
і нічога не сказалі.
Вось адгэтуль справа,
што каты налева,
а сабакі направа.

* НЛА — неапазнаны лятаючы аб'ект (англ.: UFO — unindified flying object).

## УВАГА КОНКУРС! № 29-17

Урадзіўся ён высокі,
Шаўкавісты, сінявокі.
Апранае нас здавён...
Здагадайцеся, хто ён?
Л..

(У. Мацвеенка)

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 23 ліпеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 24-17: парасон. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйграла Оля Хіліманюк з Нарвы. Віншуем!

# МАРЫШ ПРА ДАЛЁКІЯ ПАДАРОЖЖЫ

## — едзь і не бойся! Сусвет цябе не пакіне

**«Белы слон»:** — ***Чаму Вы зацікавіліся Азіяй?***

**Кася Ляўдацкая:** — Таму што шмат людзей з Таджыкістана прыязджае працаваць у Расію і ў Беларусь, і мне гэта было цікава. Мая сяброўка родам з Узбекістана і яна мне шмат расказвала, проста захапіла мяне Азіяй.

**БС:** — ***Колькі Вам было гадоў, калі Вы ўпершыню паехалі ў далёкі свет?***

**КЛ:** — Мне было 19 гадоў. Гэта было такое падарожжа па Еўропе: Германія, Галандыя, Францыя і Бельгія…

**БС:** — ***Як Вы рыхтуецеся да падарожжаў?***

**КЛ:** — Я чытаю кніжкі. У большасці гэта кніжкі на польскай мове, таму што літаратурных рэпартажаў у Беларусі амаль няма. Таксама рускіх мала. Я яшчэ нешта шукаю ў інтэрнэце.

**БС:** — ***А што Вас асабліва цікавіць?***

**КЛ:** — Звычаі, рэлігія, погляды, культура. Я этнолаг па адукацыі — можа таму. Гэта праяўляецца таксама ў кухні, мастацтве і сямейных суадносінах.



Фота Ганны Кандрацюк

**Размова з Касяй ЛЯЎДАЦКАЙ, журналісткай і падарожніцай з Гародні.**

**БС:** — ***Як бацькі ставяцца да Вашых падарожжаў?***

**КЛ:** — Ім было цяжка мяне пусціць, але пусцілі. Я была ўжо дарослая і ведала, чаму хачу падарожнічаць,

**БС:** — ***Адкуль Вы бераце грошы на экскурсіі? Ці падарожжы аўтаспынам гэта таннейшы варыянт?***

**КЛ:** — Аўтаспынам, фактычна, танней. Грошы я зараблялa рознымі спосабамі, таму што была студэнткай. Я прадавала акуляры, была клоўнам для дзяцей, займалася перакладамі, а пасля стала журналісткай.

**БС:** — ***Ці Вы баіцеся падарожнічаць самой?***

**КЛ:** — Я ніколі не падарожнічала адна. Калі я была ў Азіі, са мной быў сябар. Падарожнічаць адной — страшна. З табой павінна быць блізкая асоба, на якую ты можаш разлічваць.

**БС:** — ***А як Вы паводзіце сябе, напрыклад, у непрадбачаных сітуацыях? Ёсць страх, нервы?***

**КЛ:** — Я ведаю, што трэба захаваць спакой. Як паказвае практыка, з часам усё развязваецца, нехта прыходзіць на дапамогу. Сусвет цябе не пакіне!

**БС:** — ***Ці ў нейкай далёкай краіне Вам спадабаўся якісьці мужчына?***

**КЛ:** — Так, спадабаўся. Гэта было ў Таджыкістане. Ён быў малодшы за мяне на 2 гады. Уявіце сабе, яму 20 гадоў, ён вучыўся, а потым вярнуўся ў сваю вёску, маленькую мясціну і рабіў усё, каб яе развіваць. Мне вельмі спадабалася яго мара — каб вырасціць уласны лес, хаця там горы і дрэвы растуць цяжка.

**БС:** — ***Як мясцовыя людзі ўспрымаюць Вас у далёкіх краінах?***

**КЛ:** — Я думала, што будзе горш, бо я жанчына. Людзі, аднак, да мяне не ставіліся як да жанчыны, а як да турыста і ўспрымалі мяне як асобу. Дарэчы, людзі там вельмі гасцінныя і сардэчныя.

**БС:** — ***Ці яны ведаюць нешта пра беларусаў і Беларусь?***

**Кл:** — Так, ведаюць. Гэта постсавецкія краіны. У іх засталася настальгія па Савецкім Саюзе — краіне, у якой многія народы жылі супольна. Мне здаецца, што беларусаў яны ўспрымаюць як сяброў.

Апрацавала **Клаўдзія Галінская**,
*рэдакцыя «Белы слон», Гімназія № 7 у Беластоку,*

*малюнак* **Караліны Каравай**,
*Гімназія ў Нараўцы.*

# Філасофія СНУ

Сны бываюць глыбокія і доўгія.
Часам нехта скажа: «Ён спіць як камень».
Ніколі не ведаем, калі прыходзяць, а калі знікаюць.
Я люблю гэтыя сны.
Але гэта не рэчаіснасць, не абманвай сябе.
А перад тым як скажаш:
«Я бачыў дыназаўра»,
Падумай, гэта праўда, а можа не...

**Віктар ЛІНК**,
«(не) Тоўстая газета»,
вучань КШ № 1 у Гайнаўцы.

# Польска-беларуская крыжаванка № 29-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 24-17:**

Загадка, лета, праўда, штаб, ноч, кола, акно, я. Пошта, малпа, герб, тата, даўно, доля, задача.

Узнагароды, запісныя кіжкі, выйгралі **Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Давід Сурэль** з Арэшкава. Віншуем!

Góra
Brat
Fotografia
Moda
Ar
Fundusz
Treść
Ten
Bór
Oho!
As
Zgoda
Lipa
Cel
Łan
Łąka
Lato
Chińskie imię
Łasuch
Kokarda
Zupa
Figa

Міхась АНДРАСЮК

# Лавачка (ч.3)

Месяц калышацца ў дзедавых далонях, а мне хочацца дакрануцца да іх і, як па мосціку, перайсці на залаты бераг. Сігануць непрыкметна і асцярожна, на пальцах рук, каб не спалохаліся каменныя браты, не схаваліся на цёмным баку месяца. Хочацца зазірнуць ім у твар, паглядзець, чым вочы ката адрозніваюцца ад вачэй ахвяры. Працягваю руку, пальцы набліжаюцца да дзедавай далоні і, спалоханыя запісаным глыбока ў падсвядомасці подыхам ледзянога ветру, зацiскаюцца ў кулак. Насуперак сабе даю ім загад спыніцца, засунуцца глыбока ў кішэню.

Стэрыльная чыстата месяца нагадвае святочны стол пад жоўтым абрусам, дзе-нідзе толькі роўнядзь моршчыцца невялікімі хвалямі пажоўклага сена. У любы момант можна было б сядаць за гэты калядны стол, бо зоркі над галавой ніколі тут не знікаюць, усе яны роўныя адна адной, усе першыя. Шукаю той камень, своеасаблівую камеру без акон і без дзвярэй, у якой справядлівая Боская рука замкнула першага братазабойцу. Няўжо няма тут нічога, пра што распавядала баба Вера? А мо і ніколі не было? Можа толькі людзі — пакуль жывуць — мрояць, што перасцярога пра непазбежнае пакаранне кожнага зла, вырытая на месячным камені, паверне нас на лепшы шлях? І перадаюць гэтыя мроі з пакалення ў пакаленне.

— Мінулае нічому не вучыць, гэта ўсяго люстэрка, у якім бачыш тое, што хочаш бачыць, — кажа дзед, быццам чытаў у маіх думках. Рукі згінаюцца ў локцях і месяц падсоўваецца яшчэ бліжэй. Цяпер ён зусім блізка, так блізка, што ніжнім крайком дакранаецца да майго дзяцінства, а верхні ледзь захінае пачатак маладосці. — Хадзі, пакажу табе твой страх.

Сяджу на лавачцы і аддаю сябе травеньскаму сонцу. Пальцы цягнуцца да твару, няўмольна лезуць да чагосьці, што аднае раніцы высунулася з-пад скуры і чорнай кропкай расселася на шчацэ пад правым вокам.

— Бародаўка, як піць даць, — рассудзіла баба Вера. — Ідзі на лавачку, пасядзі, сагрэй у сонцы, можа знікне сама па сабе. Толькі моцна заплюшчвай вочы.

Кропка спачатку маленькая і ледзь бачная падрастала з кожным днём і тыднем, аж дацягнулася да памераў гарохавіны, дагледжанай добрай гаспадыняй.

— Выдалім, — упэўнена сказала баба Вера. — Галоўку часнаку парэзала ў костачку, раздушыла на мязгу, нацерла часночнай кашкай кусок сала, нашмаравала салам чысты шматок і прыклала да маёй шчакі. І перавязала твар хусткай, каб шматок трымаўся на сваім месцы. Лячэнне доўжылася тыдзень, я з-пад хусткі глядзеў на свет адным вокам, але бародаўка не адышла. Закруглілася, павялічылася, нагадвала манетку, што згубленая старажытным караванам праляжала ў зямлі доўгія гады, аж — счарнелая — аб'явілася ўсяму свету пад маім вокам. Чарговы тыдзень змагаўся з бародаўкай падтыннік, затым ізноў часнок — цяпер змешаны з воцатам і жытняй мукой. Усё безвынікова. Не зняла маю бародаўку нат цётка Фіня, хаця здымае сурокі з людзей і жывёлы, прастуе твары пакручаныя чортавымі вірамі, а кудлатыя начныя перапалахі ад аднае яе замовы нясуцца ветрам за сёмы лес. І ніколі не вяртаюцца. На бліжэйшыя тыдні баба Вера спынілася ў сваіх намаганнях. Вярнулася да справы напрыканцы ліпеня, калі першыя яблыкі наліліся сокам — кіслым, што не паспеў адстаяць свой час у цёплых бутэльках сонца.

— Кіслы яблычны сок, якраз тое, што вельмі не падабаецца бародаўкам, — шаптала, націраючы чорную манетку водарам лета.

Ліпень паспеў перадаць палачку часу жніўню, салодкасць сонца пераліваліся ў яблычныя сады, бародаўка заставалася на ранейшым месцы.

Аднойчы баба Вера апранула чорную сукенку і сказала:

— Сходзім да Марыі.

Мы часта наведваліся да бабулінай сястры Марыі і яна чакала нас. Часам чакала ў акне, прыткнуўшы чало да шыбіны, другі раз выходзіла на вуліцу і прысаджвалася на лавачку. Таго дня бабы Марыі не было ні ў акне, ні на вуліцы. На панадворку тоўпілася ці не палова вёскі, адны заходзілі ў хату, другія выходзілі, мужчыны ля калодзежа папальвалі папяросы, за сцяной жаночыя галасы цягнулі смутную песню.

Сяджу на лавачцы з дзедам Дзмітрыем і чую пах яліны перамешаны з пахам воску. Баба Марыя, склаўшы рукі на грудзях, ляжыць у драўлянай скрыні. Ніколі раней я не бачыў чалавека ў скрыні, ад нечаканасці спрабую адступіцца крок назад, але там, шчыльнай сцяной стаіць чорная сукенка бабы Веры. Баба кладзе руку на маіх валасах і кажа:

— Прыткніся шчочкай да далоняў бабы Марыі.



— Навошта? — стаю перад невядомым і мне страшнавата.

— Прыткніся, прыткніся. Не пытай, — растапыраныя пальцы, асцярожна, але рашуча націскаюць маю галаву.

Далоні бабы Марыі не нагадваюць нічога, што было б мне знаёмае. Гэта зусім не тыя далоні, што, як мяккія птушыныя крылы, яшчэ тыднем раней пяшчотна гладзілі мае шчокі. І не тыя, што яна іх — у Велікодны панядзелак, ці ў калядныя святы — высоўвала наперад сябе, зацiснутыя ў кулакі, а вочы пыталіся ўсмешкай: «Адгадай, у каторай руцэ цукерка?».

Далоні бабы Марыі цяпер нерухомыя, жоўтыя, цяжкія, і ў пакоі — нагрэтым летнім сонцам і дыханнем людзей — нагадваюць халодны язык студзеньскага ветру.

На такі ледзяны холад натыкаешся часам, калі летнім пасляпоўднем брыдзеш па вадзе за ракамі, або ментузамі. Засоўваеш руку пад бераг рэчкі, намацваеш нару, а яна маніць цеплынёй вады, пальцы коўзаюцца гладкім калідорам, выслізганым бязлускай скурай ментуза. І раптам заходзяць у шорсткую, гузаватую пячору, вада халадзее, пячора звужаецца, паварочвае ўверх, да выхаду на бераг. Трэба тады як мага хутчэй забраць руку — раяць мужчыны, што прайшлі гэтай рэчкай з дзяцінства ў маладосць, і яшчэ далей, у дарослысць, і вядомы ім кожны корч, дзе хаваюцца кляшнятыя ракі, кожны камень у вадзе, кожны вір над здрадлівай ямінай. — У такіх халодных, гузаватых пячорах селяцца вадзяныя пацукі і толькі чакаюць нявопытных хлопчыкаў, каб вострымі, як лязо сякеры зубамі абрэзаць ім пальцы.

Ледзяны язык лізнуў мяне па шчацэ, я спрабаваў адарвацца ад яго, яле зацiснутыя на галаве пальцы бабы Веры не адступалі. А ён яшчэ раз лізнуў, і яшчэ, прыкладваючы асаблівую ўвагу да таго месца на шчацэ, дзе счарнелай манеткай прысела бародаўка. Я прыадкрыў левае вока і ўбачыў чорную кофтачку, аздобленую выявай жоўтага, кляновага лісця. На вуліцы дагарала лета, але ад кофтачкі ўжо ішоў чамусьці восеньскі, сыры пах зварушанай плугам зямлі. Вока пабегла далей і найшло на падбародак бабы Марыі. Жоўты, завостраны, вытыркаўся з сырой паласы кофтачкі, а мне прыпомніліся страшныя зубы вадзяных пацукоў. Сабраўшы ўсе сілы, я адарваўся ад халодных далоняў і праз чорную сукенку бабы Веры, цераз натоўп дзядзькоў і цётак кінуўся на вуліцу, і яшчэ далей, за вёску, у лес.

Наступнай раніцой скрыню накрылі драўлянай накрыўкай, у накрыўку забілі чатыры цвікі і паклалі на воз, запрэжаны Орлікам. І Орлік, найпрыгажэйшы конь у вёсцы, павёз бабу Марыю ў Вэрсток, на могілкі. А пасля поўдня, калі мы ў рэчцы лавілі ментузоў, а камары, дружнай са сляпнямі хмарай зляталі на нас з бязвоблачнага неба, адбіваючыся ад іх, я пляснуў мокрай далонню па шчацэ і ад здзіўлення шмыгануў на бераг. Шчака была гладкая і чыстая, а бародаўка знікла, як камень у ваду.

Калі ў пачатку восені паклалася ў такую ж драўляную скрыню баба Ляксандра — другая сястра бабы Веры — узгадаўшы той ранейшы, не самы прыемны ход падзей, я забраўся на гарышча і праседзеў там, пакуль не пачуў, як Орлік ляскае аб брук жалезнымі падковамі, як у водгук конскім капытам клякоча накрыты зялёнымі ялінкамі жалязняк. За Мелянінам Орлік паварочвае направа, выходзіць на гравійку і сціхаюць усе галасы.

Дзед усё яшчэ трымае ў далонях люстэрка месяца, але рукі ўжо распрастоўваюцца ў локцях, месяц аддаляецца, адлятае, худзее на вачах, танчыць над пальцамі аднае рукі, а закрануты кончыкамі пальцаў, угінаецца, як мыльная бурбалка. На дзедавых пальцах застаецца месячны пыл, а ён сплятае іх у кошычак і праз залатую сетачку глядзіць на танцуючую бурбалку. Складвае вусны трубачкай і выдзьмухвае яе высока, над цёмную сцяну лесу: — Ідзі, дзе тваё месца.

Заварожаны абразкам, не паспяваю збегчы з люстэрка. Застаюся ў далёкім дзяцінстве, не спыняюся брысці ў летняй вадзе за ментузамі, перабягаю ў восеньскі, грыбны лес. Мне хочацца такі залаты кошычак. У яго можна было б сабраць усе грыбы, прапушчаныя на лясных сцежках. І дастаць можна з рэчкі ўсіх ментузоў, што выслізгнулі з пальцаў.

Дзедава далонь сунецца ў кішэню, капаецца там і вяртаецца з нічым.

— Курыць хочацца, — кажа дзед. — Твае цыгарэты лёгкія, а я да папярос прывык быў. Але што зробіш? Няма таго, што любіш, любі тое, што ёсць. Давай сваю саломіну.

— Адна хвіліна, я зараз, — зрываюся з лавачкі, лячу ў ноч, хвалююся, ці знайду тое, што некалі засунулася ў самае — для лішніх рэчаў — бяспечнае месца ў маёй хаце, на паліцу з кніжкамі, да якіх я даўно згубіў цікавасць і не бяру іх у рукі доўгія дзясяткі гадоў.

Вяртаюся, дастаю з кішэні пачак папярос, асцярожна кладу на лавачку. Дзед бярэ яго ў пальцы, набліжае да вачэй, разглядае літары і рысунак, і вочы закругляюцца ад здзіўлення.

— Бе-ла-мор-ка-нал, — чытае па складах. — Ух, ты! Дзе ўзяў? Тут у крамах такія не прадаюцца.

— Баба прывезла, даўно таму, яшчэ з Савецкага Саюза. Выкурыў адну, не спадабалася і так праляжалі гадоў пад сорак.

— Агню дай, у мяне ж свайго няма, — глядзіць на мяне і камечыць у пальцах папяровую гільзу.

(працяг будзе)

# Кнышын менш вядомы



■ Фрагмент праваслаўных могілак (здымак зверху)






■ Месца ў рынку, дзе стаяла царква

80 гадоў таму польскі краязнавец Мечыслаў Арловіч пісаў: „Na zachód od miasta, w połowie drogi z miasta do stacji kolejowej, leży majątek Knyszyn. Po drodze do niego mijamy malowniczy cmentarz prawosławny, położony na wzgórzu wśród starych sosen z ładną kaplicą drewnianą”.

Гэты маляўнічы краявід быў каля Кнышына калісь-калісь. Згаданыя могілкі ёсць там далей, толькі капліцы ўжо няма. Але калі яна яшчэ стаяла, тое месца выглядала амаль так, як могілкі ў Саках. Кнышынскія праваслаўныя могілкі распаложаны на ўзгорку плаўна сыходзячым да кнышынска-тыкоцінскай шашы. Зараз там асталося мала намагільнікаў; апошні з іх, здаецца, з 1945 года. Ад таго намагільніка асталася толькі гарызантальная частка, на якой ляжала прыцярушаная скошанай травой адпалая эпітафія: „Członek ORMO Wasyl Prydyba poległ na polu chwały dn. 27. III 1945 r. Cześć jego pamięci”.

Ксёндз Цыганэк у манаграфіі кнышынскага касцёла так згадваў пра гэтыя могілкі: „Cmentarz ten powstał dopiero po 1864 r., a przedtem prawosławnych grzebano na cmentarzu św. Marka na miejscu wydzielonym. Podczas ostatniej wojny kapliczkę spalono i cmentarz uległ dewastacji. (...) Kapliczka była drewniana i miała malowany na płótnie obraz św. Praksedy. Kapliczkę tę rozebrali w 1940 r. sowieci i zużyli na opał”. Ікона святой Пракседы апынулася ў ЗША...

Была згадка пра скошаную траву. Сапраўды, у канцы мая кнышынскія праваслаўныя могілкі былі абкошаны. Затое зусім інакш выглядалі пратэстанцкія могілкі, якія распаложаны з другога боку шашы. Зараслі яны шчыльнай шавялюрай кустоўя і толькі з берагу ўдалося мне пабачыць магілку з жалезным крыжам, на якой стаяла выгарэлая лампадка і вакол яе ляжалі штучныя гваздзікі.

Па вуліцы Беластоцкай стаіць стэнд, які інфармуе, што цягам XIX стагоддзя ў Кнышын прыбыло шмат немцаў лютаранскага веравызнання. Спачатку былі гэта чыноўнікі прускай адміністрацыі, бо ж большасць Беласточчыны пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай апынулася ў межах г.зв. Новай Прусіі. А пасля сталі сюды пасяляцца прадпрымальнікі, якія засноўвалі тэкстыльныя мануфактуры. У Кнышыне па вуліцы Беластоцкай дзейнічала кірха, а побач дарогі ў Тыкоцін былі закладзены могілкі. Хавалі на іх бяднейшых вернікаў, бо багацейшых везлі ў Беласток. Варта згадаць, што ў XVI стагоддзі існаваў у Кнышыне кальвінскі збор.

Крышку інакш пра Кнышын згадвае *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* 130-гадовай даўнасці: „Knyszyn, mstko i dobra, pow. białostocki, gm. Krypno. Mstko ma 5487 mk., 1128 dz[iesięcin]. miejskiej, 98 cerk. i 38 kośc.; dobra, hr. Krasińskich, z fol. 3320 dz. (1883 lasu). Parafia praw., dek. (błagoczynia) białostockiego, 326 dusz. W r. 1833 własność gen. Wincentego hr. Krasińskiego, z którego inicyatywy powstała tu fabryka sukienna r. 1832. Miała 19 warsztatów, majstrów i podmajstrów 79, sprowadzonych z Królestwa Polskiego (Knyszyn należał wówczas do Obwodu Białostockiego). Do 1 maja r. 1833 wyrobiono w niej sukna w kolorach: czarnym, granatowym, ciemno-zielonym i szaraczkowym 13,225 arszynów. Z tego sprzedano i wysłano wewnątrz Rosyi 11,400 arszynów. Hr. Krasiński sprowadził tu fabrykanta Augusta Langégo z całym gronem majstrów i robotników z rodzinami. Za wstawieniem dziedzica, cesarz Mikołaj I uwolnił K. na lat 10 od kwaterunku wojska”.

Гэтыя звесткі перапісаны з газеты „Kuryer Wileński” з 1855 года. Газета дадае: „W Obwodzie Białostockim niektórzy obywatele zaprowadzają w swych majątkach znaczne sukienne fabryki; szczególniey zaś zwraca na siebie uwagę taka fabryka w miasteczku Knyszynie, należącem do Jenerał-Adjutanta, Hrabiego Wincentego syna Jana Krasińskiego. W nader krótkim czasie została ona doprowadzona do takiego stopnia porządku, iż zaledwie może mieć w czem niedostatek”. Варта тут дадаць, што граф Вінцэнт быў бацькам польскага паэта-класіка Зыгмунта, народжанага ў Парыжы; хросная маці апошняга была Марыя Валеўская, палюбоўніца Напалеона Банапарта...

Столькі пра кнышынскіх пратэстантаў, ад якіх зараз асталіся ў Кнышыне кволыя сляды; тое ж самае можна сказаць і пра праваслаўных. І падобнае пра яўрэяў...



■ Касцёл

У цэнтры гістарычнага горада, збоку рынкавай плошчы, высіцца касцёл. У ягоным бабінцы кароткая гісторыя горада: „W inwentarzach parafialnych, sporządzonych przez ks. dziekana knyszyńskiego Jerzego Żamejcia, czytamy, że już w 1264 r. istniał drewniany kościół w Knyszynie. Jeżeli to prawda, to byłaby to pierwsza placówka duszpasterska w tym regionie Polski. Faktem jest, że przed obecnym kościołem murowanym, istniała kaplica św. Marka na obecnym cmentarzu grzebalnym, zaś na rynku kościół drewniany”. Стэнд побач касцёла менш дакладны: „Historia kościoła katolickiego w Knyszynie sięga odległych czasów”. Згаданы раней ксёндз Цыганэк так тлумачыць гэтыя гістарычныя разведкі: „Ks. dziekan Jerzy Żameyć, będąc proboszczem w Knyszynie, w 1937 r. napisał w inwentarzu kościelnym zdawczo-odbiorczym, że pierwotny kościół w Knyszynie istniał wkrótce po 1264 r., ale skąd on tę wiadomość zaczerpnął — nie wiadomo”. Цікавая гістарычная практыка, хаця, шчыра кажучы, у той вельмі адлеглы сярэдневяковы час тадышнія драўляныя храмы, верагодна крытыя спакушальнай агню саломай, стаялі ў тых многіх месцах, пра якія мы сёння нічога не ведаем, бо неўгамонны час пазамятаў усе сляды па іх; пра любыя з іх можам меркаваць з такой жа ўпэўненасцю, як і ксёндз Жамейць.

У згаданым бабінцы ёсць таксама інфармацыя пра важнейшыя гістарычныя памяткі горада. У іх ліку каменная крапельніца з незапамятнага часу побач касцёла ды, магчыма, урна з сэрцам караля Жыгімонта Аўгуста — у падвалах касцёла. Стэнд на рынку: „Przez trzy stulecia w rynku stał również sarkofag z sercem Zygmunta Augusta. Po śmierci ostatniego Jagiellona w Knyszynie w 1572 r. zwłoki króla zabalsamowano i przewieziono do Krakowa, serce zaś pozostawiono tutaj, w jego ukochanym podlaskim mieście. Złożono je w ufundowanym przez Jana Zamojskiego sarkofagu. W latach 20. XIX w. przeniesiono go z placu miejskiego do murowanej świątyni, gdzie w podziemnych kryptach prawdopodobnie znajduje się do dziś”.

Пасярэдзіне кнышынскага рынку таксама стэнд з інфармацыяй пра тамашнюю царкву. У кнышынскай царквы багатая гісторыя. Генрык Стасевіч, аўтар манаграфіі Кнышына, падае, што першая згадка пра тамашнюю царкву паходзіць з 1551 года, аднак з агаворкай, што магла яна быць пабудаванай ужо ў 1538-1540 гадах, калі Кнышын засноўваў Аляксандр Хадкевіч, вядомы прапагандыст праваслаўя. Мела яна служыць у першую чаргу вернікам „wyznania grecko-rosyjskiego, znajdującym się w orszaku dworskim króla Zygmunta Augusta”. Гэты тэзіс падмацоўвае месцазнаходжанне Спаскай царквы побач каралеўскай рэзідэнцыі па даўняй вуліцы Дворскай, сённяшняй Беластоцкай. Другая палова XVII стагоддзя прыносіць у Рэч Паспалітую войны і эпідэміі; не абмінаюць яны і Кнышына. Колькасць вернікаў усходняга абраду падае так, што царква на нейкі час спыняе дзейнасць; узнаўляецца яна ў канцы трагічнага стагоддзя. Невядома, калі дакладна кнышынская царква прыняла пастановы берасцейскай уніі — адбылося гэта цягам стагоддзя ад яе заключэння. Але яшчэ ў 1773 годзе прымяняліся там праваслаўныя літургічныя кнігі. Неўзабаве будуецца новая царква, і ў Кнышыне іх дзве. Але нядоўга, бо ў 1812 годзе адступаючыя з Расіі напалеонаўскія войскі спалілі новую. А пасля пераводу ўніятаў у праваслаўе зачыняецца ў 1846 годзе і старая царква; вернікі моляцца ў Багушэве. Цяпер у Кнышыне на яе месцы школа, узведзеная ў пачатку 1920-х гадоў.

Чарговую, новую, паставіў у 1850-х гадах пасярэдзіне рынку згаданы ўжо граф Вінцэнт Красінскі. У пачатку XX стагоддзя ў Кнышыне было каля паўтысячы праваслаўных вернікаў, якія расцерушыліся ў часе Першай сусветнай вайны. У той час будынак царквы служыў у якасці пратэстанцкай кірхі. Пасля адыходу немцаў нейкі час адбываліся там рэдкія праваслаўныя набажэнствы, а ў 1925 годзе кнышынская царква была разабрана і з ейнага матэрыялу пабудавана капліца на могілках у Васількаве. А калі ў чарговую вайну згарэла васількаўская плябанія, то новую плябанію пабудавалі з матэрыялу ад разабранай могільнікавай капліцы — былой кнышынскай царквы.

*Слоўнік Каралеўства Польскага* з канца XIX стагоддзя: „Nie masz tu już śladu dworu królewskiego, gdzie zakończył życie Zygmunt August, zniknęły pyszne ogrody i zwierzyniec, które go otaczały; podania starców wskazują tylko miejsca, w których istniały. Zachował się z dawnych wieków staw zwany Czechowizną; lud okoliczny mówi wedle tradycyi ojców swoich, że dyabeł, na rozkaz sławnego czarownika Twardowskiego, w jednej nocy go wykopał i wodą napełnił”.

Аднак замак у Кнышыне, можна сказаць, ёсць, бо так называецца мясцовасць, якая між праваслаўнымі могілкамі і чыгуначнай станцыяй. Мечыслаў Арловіч: „Obok folwarku stoi niewielki dwór hr. Karola Raczyńskiego, [...] a wśród krzaków zachowały się zagadkowe fundamenty jakiejś dawnej budowli, które według niektórych są fundamentami dawnego zamku Zygmunta Augusta”. У мясцовасці, якая цяпер называецца Knyszyn-Zamek, у каралеўскі час была гаспадарчая база кнышынскага каралеўскага замка. Для прыкладу: у 1564 годзе ў тамашніх аборах і хлявах трымалі 188 кароў, 196 авечак, 33 казы, 130 свіней... Мясцовасць гэтую ў розны час называлі то дваром, то замкам, то маёнткам, то фальваркам, то пэгеэрам... У палове XIX стагоддзя згаданы Вінцэнт Красінскі сапраўды пабудаваў там невялікі замак, знішчаны адступаючымі немцамі ў 1944 годзе.

❖ Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (11)

Калі б мы не заехалі ў Арэшкава з кінаперасоўкай, у святліцы заспявалі наведвальнікаў, пераважна моладзь. Адны мянялі кніжкі ў бібліятэцы, іншыя глядзелі часопісы або гулялі ў шашкі. Арэшкаўская моладзь не толькі была важаком у культурнай дзейнасці, але і ініцыятарам грамадскіх пачынаў. Летам 1964 года, напрыклад, працавалі пры абкопванні дарогі з Арэшкава ў Парыева і садзілі дрэўцы побач гэтай дарогі. Павятовае праўленне Саюза вясковай моладзі ў Гайнаўцы за гэтую працу прысудзіла ім першую ўзнагароду і гурток СВМ атрымаў бясплатную экскурсію ў Аўгустаў і Кентшын. Вывучалі яны таксама тайны сельскай гаспадаркі, удзельнічаючы ў гуртку сельскай падрыхтоўкі. За дасягненні былі ўзнагароджаны сельскагаспадарчымі машынамі і прыладамі. У святочныя дні арганізавалі ў святліцы танцавальныя вечарыны. Да танца падыгрываў Янка Галёнка. Амаль сем гадоў ездзілі мы з кінаперасоўкай і ніколі не абміналі Арэшкава. Грэх быў бы для нас вялікі. Гледачоў заўжды прыходзіла шмат ды і жыхары ветліва ставіліся да кіношнікаў. Шмат часу праводзіў я на размовах з мясцовымі прадаўшчыцамі Любай Шакалай і Верай Піткевіч. Вясёлыя былі жанчыны, асабліва старэйшая Люба Шакала. Заўжды вітала яна кіношнікаў з усмешкай, запрашала выпіць піва, часам чарку мацнейшага напітку.



Прыпомнілася мне такое здарэнне. Летам, у час канікулаў паехалі мы ў Тэраміскі на рыбалку. Узялі з сабою некалькі мясцовых падлеткаў у якасці праваднікоў і памочнікаў, напрыклад, падносілі вядро з рыбай. Рыбалка аказалася ўдалай. Шафёр Валодзя Скепка столькі налавіў рыбы, што на абед усім хапіла, ды яшчэ палову вядзерца засталося. На другі дзень пераехалі мы ў Арэшкава. Машыну паставілі побач святліцы. Шафёр з кінамеханікам забраліся рыхтаваць абед, я адправіўся ў недалёкую краму. У спажывецкай секцыі спаткаў Валодзьку Сідарука — дваюраднага брата з Кляшчэляў. Прыехаў ён наведаць свайго швагра Грышу Шакалу і ягоную жонку Любу. Калі я намякнуў пра абед з рыбай, братуха рашыўся далучыцца да кампаніі.

— Мая гарэлка, ваша закуска, — заявіў з усмешкай.

Кінамеханік не пасляваў скідаць рыбу з патэльні, а наш госць адно костачкі праз акенца выкідаў, ды рыбку хваліў. Нам адны хвосцікі ў прыкуску пакідаў. Такі з яго жартаўнік быў. Пасля пры нагодзе сустрэч успамінаў, як гэта ў Арэшкаве рыбку смажылі.

З таго часу мінула больш за палову стагоддзя. Зараз са слязінкай у вачах можна ўспамінаць вясёлае жыццё на колах. Заўжды, калі ў сяло заязджала кінаперасоўка, кожны — ад малечы да дарослага — ведаў аб гэтым. Аб прыездзе абвяшчала гучная музыка з рэпрадуктара. Пускалі мы пласцінкі з папулярнымі маладзёжнымі гітамі і народнымі песнямі. Я купляў у пераважнай колькасці кружэлкі савецкіх выканаўцаў, бо тэрыторыю, якую абслугоўвала наша кінаперасовачная брыгада, у большасці насялялі праваслаўныя. Некалькі разоў прыходзілася мне пабываць у Арэшкаве. Апошнім разам быў я там у 2001 годзе. Запрасіў мяне Янка Аврчук, які пражываў на калёніі ў Лазіцах. Калега расказаў мне пра магілу партызана, якая знаходзіцца непадалёк ягo сядзібы. 83-гадовы Андрэй Нікалаюк і 76-гадовы Васіль Чурак расказалі пра магілу паўстанцаў, якая знаходзіцца на пачатку вёскі ад чыгункі. Наведаў я тады сардэчнага калегу Анатоля Патэюка, які з жонкай Тэкляй і сынам арганізавалі агратурыстычную кватэру і запрашалі мяне з жонкай да сябе ў госці. Зараз многіх маіх сяброў і знаёмых з Арэшкава няма ў жывых. Адышлі ў вечны спачын Пятро Піткевіч, Анатоль Патэюк, Янка Аврчук ды іншыя. Калі я 1 ліпеня г.г. патэлефанаваў у Арэшкава солтысу Агнешцы Аврчук, мая субяседніца пра кінаперасоўку і школу ў Арэшкаве нічога не магла сказаць, паколькі належыць да маладога пакалення. Па ейнай рэкамендацыі я патэлефанаваў спадарыні Тэклі Патэюк, жонцы памерлага Анатоля, якая перадала мне апошнія навінкі аб маіх сябрах і знаёмых. І за гэта выказваю ёй сардэчную падзяку. Але не канчаецца мой аповед аб кіношніках з шасцідзясятых гадоў. З Арэшкава па маршруце падаваліся мы ў Вітава.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

**Папраўка**

У тэксце „Засталіся адно ўспаміны” (9) ад 25 чэрвеня мною была дапушчана памылка. Было напісана, што Юрка Смактуновіч ажаніўся з дзяўчынай са Скупава, Лідкай, у палове сямідзясятых гадоў. Павінна быць: у палове шасцідзясятых гадоў.




Калісьці ў другой Рэчы Паспалітай існавала Таварыства беларускай школы (ТБШ). Гэтая арганізацыя імкнулася пашырыць беларускамоўную адукацыю ў тагачаснай Польшчы. Стымулам для ТБШ, сярод іншага, была і савецкая беларусізацыя 20-х гадоў XX стагоддзя ў Беларусі. Цяперашняя Беларусь, на жаль, не можа даць замежным беларусам такога стымулу, бо беларусізацыі яна цураецца як чорт ладану. Такое стаўленне, натуральна, не натхняе беларусаў у замежжы, і таму беларускамоўная адукацыя там, мякка кажучы, не квітнее.

Сітуацыю можа змяніць толькі паважлівае стаўленне да беларускай мовы ў першую чаргу дзяржаўнай улады Беларусі. Пакуль жа, ныглядзячы на невялікія і кволыя зрухі ў гэтым накірунку пасля ўкраінскіх падзей, лукашэнкаўскія ўлады не імкнуцца беларусізаваць хаця б адукацыю. Адным з прыкладаў небеларускага стаўлення да адукацыйнага працэсу можна назваць сайт Нацыянальнага інстытута адукацыі, што месціцца па адрасе **www.adu.by.**

Дадзены сайт мае тры моўныя версіі — рускую, беларускую і англійскую. Аднак інфармацыяй па-сапраўднаму напоўнена толькі першая. Да беларускамоўнай версіі ўладальнікі сайта ставяцца, відаць, як да замежнай — англійскай, бо і там, і там некаторыя рубрыкі маюць толькі названне. Больш за тое — некаторыя артыкулы як былі напісаны па-руску, так такімі і засталіся на іншых моўных версіях. Дадзенае стаўленне сведчыць аб недастатковай дбайнасці ўладальнікаў сайта.

Калі цікаўны карыстальнік захоча прачытаць пра партал па-беларуску, то, клікнуўшы на адпаведнае выйсце ўнізе выяўлення, яму гэта не ўдасца. Для таго, каб дасягнуць гэтай, на першы погляд, простай мэты, трэба здзейсніць шмат рухаў. Спачатку — выйсці на рускамоўную версію сайта. Потым клікнуць на выйсце „Про портал”, адтуль вярнуцца на беларускамоўную версію. Толькі тады пад выйсцем на галоўную старонку з'яўляецца слова „Інстытут”, дзе і будзе змешчаны шуканы тэкст.

„Нацыянальны адукацыйны партал — гэта сучасны інфармацыйна-адукацыйны рэсурс, які: — створаны для забеспячэння комплекснай (інфармацыйнай, навуковай і вучэбна-метадычнай, кансультацыйнай) падтрымкі ўсіх удзельнікаў адукацыйнага працэсу на ўзроўнях дашкольнай, агульнай сярэдняй, спецыяльнай адукацыі; — накіраваны на стварэнне ўмоў для шматвектарнай камунікацыі педагогаў, вучняў, іх законных прадстаўнікоў, а таксама спецыялістаў органаў кіравання адукацыяй, сістэмы дадатковай адукацыі дарослых, прадстаўнікоў грамадскасці і інш.; — закліканы даць роўны доступ да якасных адукацыйных паслуг”, — сцвярджаецца там. Зыходзячы з таго, як цяжка было знайсці на сайце дадзеную інфармацыю, пагаджацца, што рэсурс сучасны, неяк не хочацца.

Зважаючы на тое, што большасць рубрык у беларускамоўнай версіі па сутнасці фэйкавыя, бо не адкрываюцца, засяроджваць увагу на іх назвах нават не варта. Адзінай прыемнай акалічнасцю сайта Нацыянальнага інстытута адукацыі можна назваць тэкст аб грамадскай, культурнай і адукацыйнай спадчыне Янкі Купалы і Якуба Коласа, 135-годдзе з дзён нараджэння якіх святкуе сёлета беларускі свет. У даным тэксце змешчана апытанне, датычнае ўнёску абодвух літаратараў у культуру Беларусі.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара



Аўтар мінскага «Купалля»

## 85 гадоў з дня нараджэння
# Анатоля Анікейчыка

Беларускі скульптар Анатоль Анікейчык нарадзіўся 11 ліпеня 1932 г. у Барысаве (Мінская вобласць). Паходзіў з інтэлігенцкай сям'і: бацька быў лекарам, а маці — настаўніцай. З 1942 г. і ажно да вызвалення Беларусі ад фашыстаў разам з сям'ёй знаходзіўся ў партызанскім раёне пад Стоўпцамі. У час вайны старэйшы брат, які таксама доўга быў у партызанах, у 1945 г. загінуў смерцю героя на Одэры. Гэта пазней вызначыла ролю тэмы вайны ў творчасці скульптара. Ужо ва ўзросце трынаццаці гадоў Анатоль Анікейчык зацікавіўся лепкай.

У 1953 г. ён патрапіў у першы набор скульптурнага аддзялення Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Настаўнікамі маладога скульптара былі мэтры — Андрэй Бембель і Аляксей Глебаў. Скончыў інстытут Анатоль Анікейчык у 1959 г. З таго часу актыўна ўдзельнічаў у мастацкіх выставах. У 1962 г. прыняты ў Саюз мастакоў БССР. Пасля заканчэння і да канца свайго жыцця выкладаў на кафедры скульптуры, якую ўзначаліў у 1979 г. У 1972 г. стаў самым маладым народным мастаком БССР. Вёў актыўную грамадскую дзейнасць. Абіраўся сакратаром праўлення Саюза мастакоў БССР, сябрам праўлення Саюза мастакоў СССР, сябрам Камітэта па дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва, архітэктуры, сябрам праўлення Беларускага таварыства сяброўства і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Ніколі не быў дысідэнтам і не выступаў супраць улады, але зрабіў свой важкі ўнёсак у беларускую культуру. Працаваў у тэхніцы станковай і манументальнай скульптуры. Браў удзел у стварэнні шэрагу вядомых манументальных ансамбляў і мемарыяльных комплексаў. Значную ролю ў творчасці Анатоля Анікейчыка займаў жанр партрэта. Творчасці скульптара ўласцівыя рамантычнасць і ўзнёслая паэтыка.

Вось якую характарыстыку даў Анікейчыку рэжысёр Алег Белавусаў, стваральнік дакументальнага фільма пра яго: „Ён быў шырокі, размашысты, нуўрымслівa таленавіты, гучнагалосы, па-мужчынску зайздросна прыгожы і — невынішчальна пяшчотны. Усё гэта злівалася ў ім у нейкі боскі сплаў, які прымушаў людзей адораных з пашанай здымаць перад ім капялюш і прызнаваць яго безумоўнае лідарства, а людзей дробнаатраўных — бязмежна зайздросціць і яго размаху, і яго ўпэўненасці ў сабе, і яго шанцаванню”.

Мастацтвазнавец Сяргей Харэўскі так ацэньвае творчасць Анікейчыка: „Фантанная кампазіцыя „Купалле” акрэсліла мяжу ў гісторыі беларускае скульптуры, падзяліўшы яе на постсталінскі, сувора-рэалістычны кшталт і, пасля Анікейчыкавых дзяўчат, на рамантычны, з прыхаваным эратызмам, кшталт аптымістычны. Пасля купалаўскага мемарыяльнага парку беларуская скульптура пайшла іншым шляхам, шляхам большае зацікаўленасці ў інтымных перажываннях, у нацыянальнай рамантыцы. Хоць не бракавала ў Анікейчыка і рэчаў лапідарных і штучных, кшталтам помнікаў Фрунзэ, Мяснікову, Дзяржынскаму, Леніну, напрыклад, але яны ёсць толькі фонам, на якім яшчэ ярчэй паўстаюць ягоныя пяшчотныя грацыі — купалінкі...”. Асаблівае месца ў яго творчасці займала асоба Янкі Купалы. Былі створаны партрэт песняра ў бронзе, кампазіцыя „Восень паэта”.

Памёр Анатоль Анікейчык 3 лютага 1989 года ў Менску, пахаваны на сталічных Усходніх могілках. Творы скульптара захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах Беларускага саюза мастакоў, іншых музеях і зборах.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У Літве беларусы былі самымі лепшымі на матуры па роднай мове

Штораз лепшых вынікаў дабіваюцца вучні на матуральных экзаменах па роднай мове ў асветных установах нацыянальных меншасцей у Літве. Гэта дадатковы экзамен, які выпускнікі выбіраюць па сваім жаданні. Сёлета 99,64% абітурыентаў здало экзамен па польскай мове, а 98,56% па рускай. Самы высокі паказчык быў дасягнуты на экзамене па беларускай мове — здало 100% прыступіўшых да яго. Аднак неабходна адзначыць, што да экзамену па польскай мове прыступіла 844 чалавек, рускай — 284, а беларускай — 2 асобы. Апрача таго станоўчымі былі вынікі экзаменаў па замежных мовах. Французскую здало 100%, нямецкую — 98,70%, англійскую — 98,51%. Адначасна матуру па літоўскай мове ў рэспубліцы здало ў суме 89,04% вучняў, у тым ліку 80,74% са школ нацыянальных меншасцей. Як вынікае з даных апошняга перапісу насельніцтва, на Літве пражываюць 154 нацыянальнасці. Літоўцы складаюць 84,2% ад агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі, палякі — 6,6%, расіяне — 5,8%, беларусы — 1,2%. Родная мову сваёй нацыянальнасці назвала 99,2% літоўцаў, 87,2% расіян, 77,1% палякаў і 18,4% беларусаў. Беларусы іншай роднай мовай назвалі рускую (56,21%), польскую (9,30%), літоўскую (5,18%). Трэба ўлічыць, што частка беларусаў, якія роднай мовай назвалі беларускую, дэкларавалі таксама другую родную мову. Складаюць яны 1,46% ад агульнай колькасці беларусаў у Літве (а 7,92% ад беларусаў, якія роднай мовай назвалі беларускую). Другой роднай мовай 1,02% літоўскіх беларусаў назвала рускую, 0,3% — польскую, 0,12% — літоўскую. Лічаныя асобы назвалі яшчэ, між іншым, украінскую, ромскую, татарскую.

Улічваючы ўсе абумоўленасці трэба сказаць, што перш за ўсё поспехам з'яўляецца тое, што ў прынцыпе ў Літве штогод праводзіцца матуральны экзамен па беларускай мове ў якасці роднай. Адначасна стапрацэнтны паказчык, які быў дасягнуты неадназова, сведчыць аб добрай падрыхтоўцы абітурыентаў і іх ангажаванасці ў вывучэнне роднай мовы.

❖Адам БОБРЫК

# З „Нівай" да людзей

Каб было больш чытачоў нашага беларускага штотыднёвіка, трэба іх да гэтага заахвоціць, трэба выкарыстаць для гэтага кожную нагоду ды не шкадаваць часу. 25 чэрвеня г.г. паехаў я з „Нівай" № 26 у суседнія з Новым Ляўковам вёскі — у Падляўкова, Ахрымы і Сушчы Барок, у якіх ведаю шматлікіх жыхароў. І лічу, што мне павязло. Новымі чытачамі нашага роднага часопіса сталі Аляксей Сухадола ды Тамара і Віталь Сухадолы з Падляўкова, Анна Несцярук і Юрка Бельскі (ён мой аднагодак і мы вучыліся ды сядзелі ў адной парце тры гады ў Пачатковай школе ў Старым Ляўкове) з Ахрымоў і Уладыслаў Грыка з Сушчага Барка.

Апошні чэрвеньскі нумар нашага часопіса завёз я Валянціне і Аляксандру Ігнацюкам, Лідзіі і Юрку Трусевічам, Андрэю Пучынскаму, Зіне Садоўскай, Сяргею Целушэцкаму ды Вользе і Віталю Скепкам з Новага Ляўкова, Міраславе Цэха, Марыі і Янку Янелям, Ірэне і Аляксею Врублеўскім, Галіне Бірыцкай і Валянціне Самойлік з Плянты, а таксама Валянціне Сухадола з Нараўкі.

У першым ліпеньскім нумары „Нівы" № 27 ад 2 ліпеня гэтага года былі артыкулы, якія датычылі Нараўчанскай гміны, між іншым, „Разлілася вялікая вада і „На задворках нашай вялікай вады" (яны пра Семяноўскае возера) Аляксандра Вярбіцкага, пра XXXI Сустрэчы „Зоркі" Уршулі Шубзды (яны прайшлі ў агратурыстычнай кватэры „Бора-здруй" Людмілы і Барыса Казлоўскіх у Новым Ляўкове) ды мой допіс „Мой клопат пра „Ніву" (пра ніўскіх чытачоў з Нараўчанскай гміны).

Першымі 27 нумар нашага роднага часопіса прачыталі ўжо 29 чэрвеня г.г. Галіна Бірыцкая і Валянціна Самойлік з Плянты. 30 чэрвеня г.г. з'ездзіў я на ровары да сяброў „Нівы" Вольгі і Віталя Скепкаў на даволі далёкую новаляўкоўскую калёнію, 2 ліпеня г.г. да Надзеі Кот і Тамары Бароўскай з Плянты, 4 ліпеня г.г. да Альжбеты і Уладзіміра Красноўскіх з калёніі Новага Ляўкова, 5 ліпеня г.г. да Галены і Мікалая Харкевічаў ды да Галіны і Яна Бірыцкіх з Плянты і яшчэ да Любы Трусевіч, Зіны Пацэвіч і Рамана Маліноўскага з Нараўкі. Я цешуся, што людзі горнуцца да „Нівы" і я магу ім у гэтым дапамагчы і іх заахвоціць. Раблю гэта з немалым задаваленнем. Некаторыя з чытачоў маюць удоваль свабоднага часу, каб пачытаць родны часопіс. Але мая „прынука" — як я ўжо пераканаўся — для некаторых патрэбная. Я 5 ліпеня г.г. даведаўся, што будзе на старонках 28 нумара „Нівы" і сказаў пры нагодзе некаторым яе верным чытачам. 6 ліпеня г.г. яны — я ўпэўнены ў гэтым — наш беларускі штотыднёвік купяць.

❖Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Першыя пліскі

У пачатку ліпеня гэтага года прайшлі праліўныя дажджы і ў лясах Белавежскай пушчы паявіліся пліскі (па-польску — куркі, па-беларуску — лісічкі). Пайшоў у лес Кастусь Целушэцкі, жыхар Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны і прынёс дадому поўны кошычак жоўтых плісак. Збіраў іх у сасновым лесе і там, дзе расце сівы або шэра-карычневы мох. Ён мае свае месцы, у якія ходзіць кожны год у грыбную пару.

❖Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА



■ Кастусь Целушэцкі з пліскамі

# Летам пасля навальніцы

... Прайшла навальніца. Толькі што страляла, ляскала. Неба злосна крэмзалі бліскавіцы. Але ж адпаўзлі на аглухлых басах грымоты і ўжо здаля толькі вуркочуць. Па страсе сплылі апошнія нацягнутыя ніткі дажджу.

Над зямлёю падковай выгнулася вясёлка. Высока над полем азваўся жаўрук — пяюн нябеснай оперы. У прамоклым садзе салаўі зноў раскладваюць ноты. Сланечнік таксама адхіліў шапку.

А я так люблю, калі каля маіх акон зноў так прыемна, так ціха шумяць бярозы. Ды дзікім мёдам пахнуць палыны.

**(яц)**

**СПАЧУВАННІ**

Шчырыя словы спачування
**Надзеі Артымовіч**
з прычыны напаткаўшага
Яе гора – смерці брата
**Віктара**.

рэдакцыя Нівы

# 16.07 — 22.07

**(22.03. — 20.04.)** Удачы ў пачуццях. Ты цяпер майстар прывабнасці. Толькі асцярожна 16-20.07., каб не прыцягнуць неадпаведную асобу. Асабліва трымайся як найдалей ад жонак ці мужоў сваіх сяброў. Наладжаныя нейкі час таму знаёмствы набяруць тэмпу асабліва 17-21.07. Дома знойдзеш поле для кампрамісу. Вучыся новага — яно будзе табе пропускам у кар'еру. Правер шчыльнасць касцей і ўтрыманне кальцыю ў іх.

**(21.04. — 21.05.)** 17-21.07. выклічаш захапленне і зайздрасць атачэння. 19-21.07. давядзеш да канца цяжкую і досыць складаную справу. Бykі з другой дэкады могуць разлічваць на выйгрышы. Не будзеш мець таліі як аса, але можаш штодзённа ўзмацняць мышцы жывата. Не забудзь аб перыядычных абследаваннях у лекара.

**(22.05.—22.06.)** Час на прыемныя падарожжы, адкрыцці і зацікаўленні. Але 16-20.07. спакусе выдавання грошай на абы-што, здаецца, не зможаш супрацівіцца. Ды можаш пазмагацца за грошы — будуць прапановы на сапраўды немалыя сумы! Блізнюк з другой дэкады — хтосьці з блізкіх схоча цябе шантажаваць. Калі 22.07. ахопіць цябе хандра, не пашкадуй сабе марозіва!

**(23.06. — 23.07.)** Зоркі заахвоцяць цябе да дзеяння. Будуць новыя магчымасці добрага заробку. На гарызонце прадбачанне пачуццёвых турбот. Канфлікты з сям'ёй і сябрамі палагодзяцца. Рак з трэцяй дэкады захопіць за сабой людзей. Не лянуйцеся — у прафесіі дзьме цяпер вецер ад ваяўнічага Марса; на пляжы валяцца можа толькі Рак з першай дэкады.

**(24.07. — 23.08.)** 16-17.07. пільнуйся, каб цябе не абмінулі пры «кармушцы». Многа радасці ад сустрэч з блізкімі і сябрамі. Вельмі дбай аб сваё здароўе, адпачывай. Зоркі памогуць табе ў найцяжэйшых рашэннях. На працы спрацуе тваё творчае ўяўленне і крэатыўны падыход. Асцярожна ў праменнях сонца.

**(24.08. — 23.09.)** Маеш сілу для рэалізацыі самых амбітных задум. І не спяшайся ў адпачынак — на рабоце само рух і важныя рашэнні. І да 22.07. маеш вельмі добры час, каб спрабаваць пайсці на сваё ў бізнесе. Не шалей з выдаткамі, бо хоць будзе прыліў грошай, зможаш іх выдаць у адзін вечар!

**(24.09. — 23.10.)** Удадуцца ўсе твае мерапрыемствы, і адпачынак. У парах, якія перажываюць крызіс, 19-21.07 паявіцца магчымасць паразумення. У парах, якім нічога не дакучае, самы цудоўны перыяд. Можаш разлічваць на сваякоў і суседзяў. На працы выкарыстай мастацтва дыпламатыі. І спадзявайся, што капне табе нейкі грош невядома адкуль.

**(24.10. — 22.11.)** 16-18.07. у фірме трымай вочы вакол галавы — можаш здабыць інфармацыі, якія можаш выкарыстаць для сябе. 19-21.07. нагоды для большага заробку. Хаця да 20.07. вельмі пільнуйся, бо хтосьці хоча табе ўпароць непрыемны жарт. Магчымыя любоўныя расчараванні. Скарпіёны з другой дэкады зацікавяцца неканвенцыянальнай медыцынай, можа самі таксама пачнуць лячыць!

**(23.11. — 22.12.)** 17-21.07. будзеш мець нагоду, каб хутка ўзбагацець! 19-21.07. удасца табе паставіць на сваім. З 22.07. (да 24.07.) можаш падпісваць дамову на працу. Але 16-20.07. не паддайся небяспечнай спакусе!

**(23.12. — 20.01.)** 19-21.07. будзеш дзейнічаць спраўна і эфектыўна. Пастаў партнёра ў цэнтры, бо блізкія могуць заўпарціцца і стаць насуперак тваім планам. Не адпачнеш ад прафесійных планаў у адпачынку. Да 20.07. можа пасыпацца важны праект.

**(21.01. — 19.02.)** Да 20.07. прыйдзецца пазмагацца табе за свабоду і незалежнасць. Не percatamляйся, будзь спакойны. Можаш і так зарабіць грошы на канікулы з мараў. Не марнуй часу і пачуццяў на «мухі» партнёра і свае. З 19.07. (да 23.07.) хутка афармляй справы звязаныя з домам. Зразумей, што свет без цябе не разваліцца і на канец адпачні ад усяго!

**(20.02. — 21.03.)** Да 20.07. прыйдзецца пазмагацца з непрыемнымі сітуацыямі. 16-19.07. не пасправачайся з хатнімі. Можаш парваць з тым, што табе шкодзіць. Будзеш ініцыятыўны — будзеш паспяховы. Найлепш адпачнеш там, дзе ціха і пуста. Будзь вельмі асцярожны на вадзе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. чалавечаня = 22 _ 23 _ 24 _ 25 _ 6 _;
2. цяперашняя Персія = 15 _ 12 _ 13 _ 14 _;
3. буйная жывёла сямейства аленевых = 20 _ 21 _ 1 _ 26 _;
4. пецярбургская рака = 10 _ 3 _ 2 _ 11 _;
5. жыллё селяніна = 18 _ 19 _ 4 _ 5 _;
6. ром інакш = 16 _ 17 _ 7 _ 8 _ 9 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 26 нумара**

Праектар, зелень, Еўклід, трон, Ізмір, музей, покуць, тэрор.

Рашэнне: **Летні дзень зіму корміць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# „Мужыцкая праўда” на Беласточчыне

## (да 155-годдзя газеты)


Nr. 1. Mużyckaja prauda

Dzieciuki!

На хвалі адмены прыгоннага права 19 лютага 1861 года і росту колькасці сялянскіх выступленняў, у Расійскай імперыі пачынаюць актыўна распаўсюджвацца дзясяткі нелегальных рэвалюцыйных выданняў, сярод якіх адной з самых вядомых быў першы нумар выдадзенага ў чэрвені 1861 года „Великоруса”. Але асаблівасцю новага часу стала з’яўленне праклямацый на мовах іншых падпарадкаваных народаў, у тым ліку беларусаў. Менавіта з мэтаю прапаганды сярод сялянскага насельніцтва Падляшша, у Беластоку восенню 1861 года ў хаце прыхадскога ксяндза таемна друкавалася вельмі папулярная „Гутарка старога дзеда”.

Яе рыхтавалі чыгуначны інжынер Баніслаў Шварцэ, настаўнік музыкі Адам Белакоз і чыноўнік Грынявіцкі, з выкарыстаннем шрыфту, перададзенага з Украіны ад рэвалюцыйнай арганізацыі на чале з паэтам Апалонам Кажанёўскім. „Гутарка” падрыхтавала глебу для „Мужыцкай праўды”. Верагодней за ўсё, яны нават друкаваліся на адным абсталяванні, якое, пасля ад’езду ў Варшаву Баніслава Шварцэ, у чэрвені 1862 года перайшло да Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі на чале з Канстанцінам Каліноўскім.

Першы факт з’яўлення „Мужыцкай праўды” зафіксаваны 10 ліпеня 1862 года, калі селянін вёскі Бярозаўка Брэсцкага ўезда Місей Геліч на полі знайшоў надрукаваны лісток. У гэты ж дзень „Мужыцкую праўду” на сваіх палях знайшлі сяляне суседніх вёсак — Ясенаўка, Падбуржа і Радовічы. Усяго ў рукі паліцыі патрапілі пяць экземпляраў, пазначаных нумарам адзін. Але шэраг з іх вяскоўцы схавалі, як было на Беласточчыне, дзе ў верасні 1862 года паліцыя пачала выяўляць дзясяткі зацертых, пажоўклых старонак першага і другога нумароў газеты. Шэраг з іх выявілі проста на вуліцах Беластока.

У той жа час чатыры экземпляры першага нумара „Мужыцкай праўды” на мастках плаціны каля мястэчка Сідры ў Сакольскім уездзе знайшоў селянін Антон Чарапушка. Аб гэтым расійскім уладам паведаміў напалоханы магчымым эфектам уздзеяння на свядомасць вяскоўцаў рэвалюцыйных ідэй ксёндз Савіцкі. Да таго ж Чарапушка не толькі сам прачытаў газету, але перадаў яе пісарчуку Гарасімовічу і селяніну Парчэўскаму. Таму 22 верасня гродзенскі губернатар загадаў неадкладна адшукаць і адабраць „гэтыя лісткі”.

Нягледзячы на подпіс „Яська-гаспадар з-пад Вільні”, беластоцкі жандармскі афіцэр маёр Штэйн пісаў 12 верасня 1862 года да гродзенскага губернатара Івана Уладзіміравіча фон Галера: „Хаця ў іх напісана, што яны выдадзены быццам бы ў Вільні, але я становуча даведаўся, што яны прывозяцца з Варшавы”. Насамрэч „Мужыцкая праўда” стваралася пад самым носам у паліцыі, частка яе накладу пасля чыгункаю ў пачках па 10 экземпляраў распаўсюджвалася далей, даходзячы нават да Варшавы. Але асноўны яе тыраж выпраўляўся спачатку ў павятовыя колы Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, каб пасля быць раскіданымі побач з вёскамі, на палетках, скрыжаваннях, паабапал асноўных шляхоў зносін, або быць прыбітымі да дзвярэй касцёлаў, цэркваў, прыдарожных крыжоў. Так, у Сакольскім уездзе, раз’язджаючы ўначы на кані, яе раскідваў загадчык мясцовай лясной школы Валерый Урублеўскі разам з фельчарам Сянкевічам. На асобу апошняга паліцыя выйшла незадоўга да пачатку паўстання ў студзені 1863 года, але той здолеў збегчы.

У кастрычніку 1862 года ў вёсцы Чартаева паблізу Сямятыч непаўналетняя дзяўчынка знайшла на вуліцы вёскі кніжачку ў 10 лісткоў, немаведама кім падкінутую. Далей гэтыя аркушыкі патрапілі да дзясяцкага вёскі Чартаева Сямятыцкай воласці селяніна Лаўрэнці Віленскага. Той з-за сваёй малаадукаванасці звярнуўся па дапамогу да чартаеўскага каваля Бахухэўскага. Абодва моцна здзівіліся, калі пасля некалькіх старонак польскага тэксту прачыталі словы на „мужыцкай” мове, якую яны самі ўжывалі. Такое адкрыццё моцна напалохала як Віленскага, так і Бахухэўскага: яны вырашылі больш нікому не паказваць знойдзеных матэрыялаў. Але пра з’яўленне невядомай кніжачкі пайшлі чуткі, пакуль, нарэшце, мясцовы жыхар Фама Парафеннік не данёс пра іх святару Сямятыцкай царквы Ляцэвічу. Той, у сваю чаргу, звярнуўся да станавога прыстава і царкоўнага кіраўніцтва — благачыннага Бараноўскага. Як аказалася, на дзесяці лістках, знойдзеных у вёсцы Чартаева, былі № 1 і № 2 газеты „Мужыцкая праўда” і твор „Cztery niedziele postu” на васьмі аркушах. На пытанне паліцыі, чаму ж Віленскі не аддаў гэтых лістоў паліцыі, ён апраўдваўся: жонка „просила позволить употребить ее на обложение при печении на бляхе пирогов”. Віленскаму пашчасціла, што ён быў абвінавачаны ў чытанні „Мужыцкай праўды” яшчэ да пачатку паўстання і таму быў узяты толькі пад нагляд паліцыі. Пра гэты выпадак 24 снежня гродзенскаму губернатару паведаміў бельскі земскі спраўнік, а далей яго разборам занялося міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі.

Пісьмо перш за ўсё было накіраванае на сялянскую моладзь, якая была гатовая да абароны ўласных правоў. Нездарма адзін з распаўсюджвальнікаў выдання, батрак з вёскі Войнаўцы Сакольскага павета Казімір Станкевіч чытаў яе іншым „скрытна ад старых”. Сяляне верылі „Мужыцкай праўдзе”, аб чым сведчаць словы іншага селяніна, 44-гадовага Мацея Цюхны, пакаранага 6 чэрвеня 1863 года ў Саколцы смерцю за распаўсюджванне газеты: „Прачытай і будзеш усё ведаць”. У канцы снежня 1862 года ў Войнаўцах распаўсюджваўся № 5 „Мужыцкай праўды”, два экземпляры якога патрапілі ў рукі сакольскага акруговага начальніка дзяржаўных маёмасцей Сакалова. Пра забітага Цюхну і сасланага ў Пермскую губерню студэнта Гарчака, якія займаліся распаўсюджваннем „Мужыцкай праўды”, 1 жніўня герцанаўскі „Колокол” змясціў зацемку на сваіх старонках.

Змест газеты завучвалі на памяць і пераказвалі па суседніх вёсках — Мінкоўцы, Номікі, Чапляеўка і іншых. Так, непісьменны селянін Міхась Зянцюк з вёскі Номікі даведаўся пра газету напрыканцы ліпеня — пачатку жніўня 1862 года і на памяць пераказваў яе змест іншым. Улады адправілі Міхаіла Зенцюка і іншага яго аднавяскоўца Казіміра Хмару ў амурскія батальёны.

У першай палове ліпеня 1863 года селянін вёскі Парчэўцы Сакольскага павета знайшоў адзін з нумароў „Мужыцкай праўды” па дарозе з Кузніцы ў Саколку. А 8 ліпеня ўначы апошні, сёмы па ліку, нумар газеты быў падкінуты ў хату старшыні вёскі Стары Корнін Бельскага павета і прыклеены на слупе за паселішчам. Яшчэ некалькі сёмых нумароў разам з напісаным па-беларуску „Прыказам... да народу” былі знойдзены ў жніўні 1863 года ў Вежацкай воласці ў вёсцы Стаўпы. Адзін з іх быў падкінуты да хаты селяніна Сцяпана Касюціча. Паўгода гэтыя дакументы вандравалі сярод сялян, пакуль не былі перададзены ўладам. У іх распаўсюдзе абвінавацілі селяніна Сакольскага павета, які працаваў валасным пісарчуком — Льва Мянчынскага. Нягледзячы на адсутнасць доказаў, ён быў сасланы ў Томскую губерню на пасяленне.

Над выданнем „Мужыцкай праўды” працавалі Канстанцін Каліноўскі, Валерый Урублеўскі, Фелікс Ражанскі і Станіслаў Сангін. У кожным з сямі нумароў яны вылучалі асноўную думку, якой і прысвячалі тэкст. Першы нумар распавядаў пра маніфест аб адмене прыгоннага права, з’яўленне якога паслужыла каталізатарам да актывізацыі сялянскага руху. Наступныя крытыкавалі найбольш ганебныя з’явы царызму — паншчыну і рэкрутчыну, а таксама намагаліся патлумачыць сялянам, што такое сапраўдная вольнасць і для чаго неабходны ўрад. Сярод усёй серыі нумароў хіба не найбольшую крытыку выклікае шосты, у якім заяўлена: адсутнасць шчасця „на гэтам і на тамтам сьвеце”, усе нягоды, якія выпалі на долю сялянства, звязаныя з тым, што яно выраклася „справядлівай уніяцкай веры” ў выніку скасавання ўніяцтва ў 1839 годзе. Але менавіта ён выклікаў найменшы водгук, у адрозненні ад тых, што былі прысвечаныя вольнасці (№ 3) і рэкрутчыне (№ 5), перавыдадзеных падчас паўстання 1863-1864 гадоў. Папулярнасць „Мужыцкай праўды” і створанага ёю вобраза ідэальнага героя — „Яські — гаспадара з-пад Вільні” была прадвызначана выкарыстоўваным гутарковым словам і насычанасцю запамінальнымі фразеалагізмамі, а таксама ўзнятай актуальнай праблематыкай. Нездарма Генадзь Кісялёў лічыў, што „Мужыцкая праўда” ляжыць у падмурку сучаснай беларускай дэмакратычнай прэсы.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**



ISSN 0546-1960